Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 49 (4798) 12 снежня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Дзяржаўнага Эрмітажа з 250-годдзем з дня заснавання. «На працягу двух з паловай стагоддзяў Эрмітаж робіць бясцэнны ўнёсак у захаванне, вывучэнне і папулярызацыю мастацкай спадчыны розных краін і эпох. Сёння гэта найбуйнейшы і вельмі вядомы музей свету, скарбы якога выклікаюць нязменную цікавасць у шматлікіх наведвальнікаў, у тым ліку з Беларусі», — падкрэслена ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы ўзнагародзіў ордэнам Францыска Скарыны генеральнага дырэктара Дзяржаўнага Эрмітажа Міхаіла Піятроўскага за значны асабісты ўнёсак ва ўмацаванне і развіццё культурных сувязей паміж Беларуссю і Расіяй.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з юбілеем народную артыстку СССР Алісу Фрэйндліх. «Створаная Вамі галерэя цудоўных жаночых вобразаў скарае і захапляе сваёй пранізлівай дакладнасцю, мастацкай індывідуальнасцю і глыбокім псіхалагізмам», — адзначана ў віншаванні.

✔ Указам Прэзідэнта Беларусі медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны намеснік дырэктара — галоўны рэдактар часопіса «Полымя» РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»» Алесь Бадак і старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ Людміла Кебіч. Ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь» прысвоена кампазітару, дацэнту кафедры мастацтва эстрады факультэта музычнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Алегу Елісеенкаву.

✔ IX Форум навуковай і творчай інтэлігенцыі СНД пройдзе 16 снежня ў Маскве. Да ўдзелу ў мерапрыемстве ў расійскую сталіцу запрошаны больш як 300 дэлегатаў з Беларусі, Арменіі, Азербайджана, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Таджыкістана, Туркменістана, Узбекістана і Расіі.

✔ Сёння ў Палацы культуры Мінскага трактарнага завода пройдзе прэзентацыя аднаго са старэйшых і найбольш адметных фэстаў у нашай краіне — Міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» і канцэрт яго лаўрэатаў. Свае майстэрства пакажуць лаўрэаты розных гадоў, ансамбль салістаў Нацыянальнага аркестра народных інструментаў Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча, творчая дэлегацыя з Пастаў ды інш.

✔ Выдатным калядным падарункам для ўсіх аматараў класічнай музыкі стане выступленне польскіх музыкантаў, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Міхала Крэнжлеўскага (фартэпіяна) і Матэвуша Мрочака (скрыпка). Канцэрт адбудзецца 20 снежня ў канцэртнай зале «Верхні горад» на плошчы Свабоды ў Мінску.

✔ Штогадовы калядны тур балетнай трупы Вялікага тэатра Беларусі па гарадах Германіі і Аўстрыі распачаўся 10 снежня і завершыцца 21 студзеня будучага года. Еўрапейцам будуць прадстаўлены спектаклі «Лебядзінае возера» і «Шчаўкунчык» Пятра Чайкоўскага.



Фота Кастуся Дробава



Вядомы беларускі калекцыянер Мікалай Магільны сярод сваіх рарытэтаў.

Чытайце на стар. 14 ▶

Фота Міколы Шабовіча



Першы ў Беларусі помнік Максіму Танку, адкрыты 5 снежня ў Мядзеле.

Чытайце на стар. 2 ▶

## Барометр творчай актыўнасці



Васіль Касцючэнка «Паветраныя шары і верталёты». 2014 г.

**Палац мастацтва запрашае на IV Біенале жывапісу, графікі і скульптуры «Формазмест — 703». Гэты ўжо даволі паспяховы праект дазваляе прааналізаваць асноўныя тэндэнцыі беларускага мастацтва. Наведвальнікі выстаўкі ўбачаць больш як 500 карцін і скульптур, размешчаных у чатырох залах Рэспубліканскай мастацкай галерэі.**

Чытайце на стар. 16 ▶

# Дзе карані яго

Ва ўрачыстым адкрыцці помніка Максіму Танку ў Мядзеле ўзялі ўдзел пісьменнікі на чале з першым сакратаром СПБ паэтам Генадзем Пашковым. Чырвоныя гваздзікі і шчырыя словы сталі данінай павагі і памяці вялікаму паэту, грамадзяніну і чалавеку — Максіму Танку.

Гасцінна сустрэў пісьменнікаў мясцовы школьны музей, які працуе на базе Сваткаўскай сярэдняй школы імя Максіма Танка. Уважлівыя і строгія экскурсаводы, вучні старэйшых класаў, расказалі пра асноўныя раздзелы экспазіцыі: «Калыска песні паэта», «Дзе карані мае», «На этапах», «Прайсці праз вернасць».

Пасля госці далучыліся да ўрачыстага мерапрыемства, якое ладзілася ў Палацы культуры Мядзела. Генадзь Пашкоў узгадаў асабістыя сустрэчы з Максімам Танкам.

Літаратуразнаўца, крытык, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка паслядоўна распавёў пра ролю паэта ў сусветнай літаратуры.

Пра даследаванне культурнай спадчыны паэта пачулі мядзельцы ад супрацоўніка Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзіі Шагойка. Цёпла сустрэлі слухачы сваіх землякоў: паэтаў Рагнеда Малахоўскага і Міколу Шабовіча. Далучылася да сумоўя і паэтэса Іна Фралова, яна прачытала пераклады вершаў Пушкіна на беларускую мову, зробленыя М. Танкам. Маладая таленавітая паэтэса і бард Ганна Чумакова выканала пад гітару песені на словы класіка.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Пісьменніцкі дэсант

**Згодна з планам работы Студыі ваенных пісьменнікаў, вялікая група літаратараў — членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі — наведала 72-гі гвардзейскі аб'яднаны вучэбны цэнтр падрыхтоўкі прапаршчыкаў і малодшых спецыялістаў.**

Мерапрыемства было прысвечана 70-годдзю Вялікай Перамогі. У вялікай зале цэнтра ваеннаслужачыя віталі выступленні ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алеся Савіцкага, ветэранаў Узброеных Сіл нашай краіны генерал-маёра авіяцыі ў адстаўцы, празаіка Анатоля Сульянава і палкоўніка ў адстаўцы, паэта Леаніда Лукшу.

За імі бралі слова паэты Міхась Пазнякоў, Навум Гальпяровіч, Яўген Каршукоў, Тамара Залеская, Аліна Легастаева і Зіновій Прыгодзіч, якія прачыталі вершы, прысвечаныя героям вайны, Радзіме. Быў сярод пісьменнікаў і мастак, старшыня Студыі ваенных мастакоў пры Цэнтральным Доме афіцэраў Мікалай Апіёк, які прадэманстраваў на экране работы мастакоў студыі на ваенную тэматыку.

Напрыканцы сустрэчы пісьменнікі падаравалі воінам свае кнігі ды часопісы.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Прынятыя ў СПБ



**Уладзімір Паўлавіч НЕСЦЯРОВІЧ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 15 мая 1949 года ў в. Карбаўское Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і факультэт масава-палітычнай работы аддзялення сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды ўніверсітэта марксізму-ленінізму Мінскага абкама КПБ. Працаваў фотакарэспандэнтам, пазней — карэспандэнтам аддзела сельскай гаспадаркі ў бярэзінскай раённай газеце «Сцяг Леніна» (цяпер «Бярэзінская панарама»), затым — у Бярэзінскім райвыканкаме. Пенсіянер. Аўтар паэтычнага зборніка «Сто дарог» (2008) і аповесці «Непрыручанае рэха» (2013).



**Людміла Уладзіміраўна КРУГЛІК**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 10 верасня 1949 года ў г. Нясвіжы Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута. Працавала старшай піянерважатай, выхавацелем, а затым — загадчыцай дзіцячага сада ў г. Нясвіжы, цяпер — у гімназіі № 1 г. Дзяржынска (кіраўнік гуртка «Маленькія паэты»). Аўтар паэтычных зборнікаў «Мелодия души» (2009), «Осенняя рапсодия» (2013) і «Аромат фиалки» (2014). Суаўтар калектыўных зборнікаў літаб'яднання «Жывіца».



**Віктар Віктаравіч КАЖУРА**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 1 ліпеня 1959 года ў в. Краўчонкі Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Працуе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Вілейскай гімназіі № 2. Стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2008). Аўтар зборнікаў дзіцячых вершаў «Люлі люлі, баю бай» (2012) і «На хвілінку прыпыніся — ды паслухай-падзівіся» (2012).

# Летапіс спраў жаночых

**«Круглы стол» «Жанчыны Беларусі: асобы, падзеі, часопіс» прайшоў 5 снежня ў Нацыянальнай бібліятэцы краіны. Нагодай стала 90-годдзе легендарнага дзяржаўнага выдання для беларускіх прыгажунь «Алеся». Мерапрыемства дазволіла не толькі пераасэнсаваць мінулае, але і вызначыць напрамкі развіцця часопіса.**

Узгадвалася, у якіх умовах часопіс нараджаўся. Так, першы нумар «Алесі» (на той момант «Беларускай работніцы і сялянкі») з'явіўся напрыканцы 1924-га з мэтай аб'яднання беларускіх жанчын — і практычна адразу стаў папулярным. Дарэчы, «Алеся» была самым тыражным выданнем на Беларусі, калі ў некаторыя гады наклад дасягаў паўтара мільёна экзэмпляраў! Увесь час свайго існавання часопіс быў верны традыцыям і, галоўнае, чытачкам, таму стаў сапраўдным летапісам іх жыцця.

У агучаным падчас «круглага стала» віншаванні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі справядліва пазначана, што «Алеся» сфарміравала некалькі пакаленняў беларусак — энергічных, дасведчаных і неабыякавых да самага шырокага кола культурных, палітычных, маральна-этычных праблем».

На юбілейным мерапрыемстве прысутнічалі, у тым ліку, міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, сустаршыня грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» Антаніна Морава, генеральны дырэктар РУП «Белпошта» Ірына Саксонава, дырэктар — галоўны рэдактар «Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

Падчас імпрэзы выступілі і рэдактары часопіса ў розныя гады: Марыя Карпенка, Раіса Баравікова, Тамара Бунто і, канечне, цяперашні кіраўнік «Алесі» Ларыса Ракоўская, якая раскрыла пра сваё бачанне будучыні выдання.

Госці мерапрыемства выказалі спадзяванне, што «Алеся» не страціць, а, наадварот, павялічыць сваю запатрабаванасць, асабліва ў далёкіх кутках Беларусі — маленькіх гарадах і вёсках. Справа ў тым, што гераіня «Алесі» — звычайная жанчына, якая дбае пра сям'ю, гаспадарку, клапоціцца пра дзяцей і не забываецца пра кар'еру.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Музыка № 17

Чарговыя, сямнаццатыя па ліку, Мінскія паэтычныя чытанні, арганізаваныя Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, адбыліся ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.

Гэтым разам мерапрыемства ў літаральным сэнсе прайшло на высокай ноце: чытанні адкрыліся выступленнем узорнага ансамбля скрыпачоў і віяланчэлістаў «Элегія» сталічнай сярэдняй школы № 77 (кіраўнік — Жанна Бялова, канцэртмайстры — Інеса Савіцкая і Алена Конахава), шматразовага лаўрэата гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных музычных конкурсаў. Снежаньскія паэтычныя чытанні праходзілі пад знакам класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча.

Свае вершы публіцы прадставілі Анатоль Аўруцін, Уладзімір Мазго, Дзмітрый Дземідовіч, Маргарыта Латышкевіч і Людміла Клачко, Іна Фралова і Міхась Пазнякоў.

**Яна ЯВІЧ**

# Успаміналі сябра і калегу

**У Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы г. Мінска адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны памяці паэта, празаіка і перакладчыка Паўла Саковіча.**

Сказаць шчырыя словы пра руплівага, шчодрага душой і сэрцам чалавека, прачытаць яго творы, а таксама ўласныя вершы, прысвечаныя сябру былі, прыйшлі калегі-пісьменнікі. Сярод слухачоў і студэнты гандлёвага ды фінансава-эканамічнага каледжаў.

Вёў вечарыну старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. Перад вялікай аўдыторыяй выступілі Мікола Маляўка, Сяргей Давідовіч, Ганад Чарказян, Наталія Касцючэнка, Мікола Чарняўскі, Юлія Зарэцкая, Вольга Сакалова, Уладзімір Ермалаеў, Яўген Хвалей, Дзмітрый Дземідовіч, Васіль Найдзін, Янусь Малец, Дзмітрый Пятровіч, а таксама Валянціна Скарынкіна, якая ў свой час працавала з П. Саковічам у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».

Супрацоўнікі бібліятэкі наладзілі выстаўку кніг пісьменніка і публікацый яго твораў. А літаратары падтрымалі прапанову М. Пазнякова сабраць вершы, артыкулы, успаміны пра Паўла Саковіча і выдаць іх асобнай кнігай.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Пра жыццё

**Нядаўна ў Гродне, культурнай сталіцы Беларусі, адбыўся дабрачынны творчы вечар гродзенскага паэта і афарыста Ігара Субоціна, прымеркаваны да выхаду яго чарговай кнігі — поўнага збору афарызмаў «Гродненские афорики, или 1703 мысли о жизни».**

У фае канцэртнай залы Цэнтра культуры Гродна прайшоў кірмаш вырабаў тутэйшых майстроў і іх майстар-класы, тут можна было набыць кнігі творцы. Настрой стварае канцэрт, у якім бралі ўдзел харэаграфічны ансамбль «Непаседы Дэнс», народны тэатр гумару «Кан-Кан», мужчынскі народны вакальны ансамбль пад кіраўніцтвам Валерыя Кручкова. Гучалі песні аўтара і кампазітара Юрыя Харэвіча з Кобрына, вершы ў аўтарскім выкананні Ігара Субоціна і яго сына Віктара — лаўрэата фестывалю бардаўскай песні.

Самая юная ўдзельніца канцэрта — сямігадовая паэтэса, вучаніца 1 класа школы № 170 г. Мінска Уладзіслава Мармыль — парадавала гледачоў уласнымі паэтычнымі радкамі, за што атрымала падарунак ад аўтара — яго кнігу. Таксама выступалі насельнікі Гродзенскага дома-інтэрната састарэлых і інвалідаў, вакальная група «Капрыз» пад кіраўніцтвам Мікалая Журневіча.

Усе сродкі ад продажу кніг і сувеніраў будуць пералічаны на разліковы рахунак Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Кастрычніцкага раёна г. Гродна.

**Юлія САВІЦКАЯ**

# Аматар лодак ды паравозаў

Дваццаць восьмага лістапада да 115-годдзя з дня нараджэння Міхася Лынькова ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі адбыўся літаратурны вечар «Святло яго душы...».

На пачатку сустрэчы былі згаданыя галоўныя падзеі з жыцця народнага пісьменніка, а таксама прагледжаны фрагмент знакамітага фільма «Міколка-паравоз» (1956). Літаратуразнаўца Міхась Кенька звярнуў увагу на тое, што М. Лынькоў па тыпе творчасці быў апавядальнікам — з гэтай нагоды раман-эпапея «Векапомныя дні» атрымаўся мазаічным, фрагментарным, што з сённяшняга гледжання на літаратуру падаецца не заганай, а адметнасцю. Даследчык падкрэсліў мастацкую значнасць рамана «На чырвоных лядах» (1934) і падзяліўся ўспамінамі пра выданне васьмітомнага збору твораў М. Лынькова.

Для Людмілы Карпавай Міхась Лынькоў застаўся героем лепшых успамінаў дзяцінства: пісьменнік паліў вогнішчы каля Дома творчасці ў Каралішчавічах. На лецішчы каля Нарачы разам з жонкай частаваў гасцей юшкай, а раніцай запрашаў пакатацца на лодцы.

Леанід Міхайлавіч Лынькоў, прыёмны сын пісьменніка, загадчык кафедры інфармацыйнай бяспекі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, расказаў пра вялікую торбу з цукеркамі, заўсёды гатовую для школьнікаў-экскурсантаў, і прыгадаў адмысловую звычку бацькі катаць непадрыхтаваных людзей па возеры ў час вялікіх хваляў. «У жыцці заўсёды трэба працаваць і быць прафесіяналам у сваёй справе», — нагадаў ён галоўную бацькоўскую параду маладой аўдыторыі.

Літаратуразнаўца, прафесар культуралогіі Аляксей Рагуля падзяліўся думкамі пра аповесць «Апошні зверыядавец» (1930).

Да юбілею пісьменніка зладжана невялікая выстаўка з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Слова Караткевіча жыве!

Пад такой назвай у «Цэнтры славянскіх моў і культур» 28 лістапада адбылася вечарына, прысвечаная памяці беларускага класіка. Арганізатар сустрэчы — выкладчыца Цэнтра аспірантка Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Алена Ларыёнава — сабрала разам яркіх творцаў: шчымліва-лірычны гурт «Нельга забыць», энергічнага Сяргея Башлыкевіча, праніклівага Андрэя Лугіна (лідар хрысціянскага гурта Laudans), шчырую ўкраінку Крысціну Кузьменка. Завіталі супрацоўнікі часопіса «Маладосць»: намеснік галоўнага рэдактара Тамара Сарачынская і рэдактар аддзела прозы Настасся Салдаценка.

На пачатку зямлячка Уладзіміра Сямёнавіча Алена Ларыёнава зладзіла для гасцей і выступоўцаў невялікую віктарыну, пераможцы якой атрымалі сімвалічны падарунак — грушы. «Груша цвіла апошні год…» — прыгадала вядучая пачатак Караткевічавых «Каласоў…», дадаўшы, што дрэва памяці Караткевіча цвіце і дорыць плады па сёння, як і жыве, наталяе людзей яго слова.

«Цэнтр славянскіх моў і культур» — адукацыйныя курсы, дзе выкладаюць польскую, украінскую, чэшскую, балгарскую і іншыя славянскія мовы. Праходзяць тут і курсы беларускай мовы для дзяцей малодшага ўзросту.

Такім чынам, вечарына, прысвечаная Уладзіміру Караткевічу, адкрыла шэраг культурных вечароў. Выкладчыкі рыхтуюцца да новых святочных мерапрыемстваў, бліжэйшае — вечар, прысвечаны Божаму Нараджэнню.

**Аксана ЮЧКАВІЧ**

# Душэўны дыялог

Вершы старшыні Віцебскага абласнога аддзялення СПБ Тамары Красновай-Гусачэнка на Віцебшчыне не толькі любяць, але і ведаюць на памяць. Творчая сустрэча з паэтэсай прайшла ў гарадскім пасёлку Шуміліна.

Тамара Іванаўна — аўтар мноства паэтычных зборнікаў, крытык, публіцыст, актыўны грамадскі дзеяч, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, пераможца творчых конкурсаў, чалавек спагадлівы і адкрыты.

З радзімы паэтэсы, вёскі Шчапяціна Бранскай вобласці, куды бацьку пасля вайны накіравалі старшынёй калгаса, а маці — дырэктарам школы, сям'я перабралася ў Беларусь. Віцебск Тамара Іванаўна называе сваёй другой радзімай. Яе творчыя пачынанні падтрымлівае муж Уладзімір, які разам з жонкай прыехаў на гэтую сустрэчу. Добрыя словы пра творчасць Т. Красновай-Гусачэнка выказаў шумілінскі пісьменнік і краязнаўца Віктар Улюценка. Падарункам для госці стала выступленне выхаванцаў мясцовай дзіцячай школы мастацтваў.

**Наталля ЧАРНІЧЭНКА**

# Мара пісьменніцы

Вучні і настаўнікі Маркаўскай сярэдняй школы, што на Маладзечаншчыне, заўсёды радыя сустрэцца з цікавымі асобамі. Нядаўна сюды завітаў даўні сябар установы краязнаўца і пісьменнік Міхась Казлоўскі, ды не адзін. Госць прадставіў перакладчыцу, журналістку і пісьменніцу Хрысціну Лялько.

Аўтарка пазнаёміла са сваёй творчасцю: прагучалі яе вершы з цыклаў «Партугальскія мрокі», «Выпадак пад Ракавам», «Як узнікае верш»... Усё тут працуе на выразнасць твораў: і дасканалае апісанне кожнай з'явы, і зварот да духоўнага свету чалавека, і трапныя мастацкія вобразы. А яшчэ пісьменніца адзначыла, што рыхтуецца да выдання новая кніга вершаў.

Падчас гутаркі Хрысціна Лялько засяроджвала ўвагу на духоўным свеце чалавека, на стасунках паміж людзьмі.

Падзялілася госця ўражаннямі пра свае падарожжы, у прыватнасці ў Італію. Хоць пісьменніца ведае тры замежныя мовы і паглыблена вывучае італьянскую, усё ж прызналася: «Мая вялікая мара — каб усе вучылі і ведалі беларускую мову». Хрысціна Лялько вядомая яшчэ і як перакладчыца, што пераствaрыла на роднай мове кнігу Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі».

**Вольга САХАР,**
**вучаніца 9 класа Маркаўскай СШ**

# Чыталі вершы… пракуроры

У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў адбыўся творчы конкурс чытальнікаў «Мой родны кут, як ты мне мілы!» сярод пракурорскіх работнікаў органаў пракуратуры г. Мінска. Творчае спаборніцтва арганізавала пракуратура сталіцы пры падтрымцы БДУКіМ і Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У заключным этапе конкурсу бралі ўдзел 20 чалавек, якія дэкламавалі вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Канстанцыі Буйло, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча, Анатоля Вярцінскага, Адама Міцкевіча ды іншых паэтаў. Першае месца ў выкананні верша грамадзянска-патрыятычнай тэматыкі заняла старшы памочнік пракурора Цэнтральнага раёна сталіцы Кацярына Нагорная. Ёй, дарэчы, дастаўся і прыз Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Пераможцам сярод чытальнікаў вершаў філасофскай тэматыкі стаў старшы пракурор аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства ў войсках пракуратуры г. Мінска Андрэй Кацянёў. А ў намінацыі «Выкананне твораў лірычнай тэматыкі» перамогу атрымала пракурор аддзела па наглядзе за адпаведнасцю закона судовых пастаноў па грамадзянскіх справах пракуратуры г. Мінска Марыя Лістраценка.

Вырашана праводзіць падобныя конкурсы штогод, а яшчэ — увесці дадатковую намінацыю: «Выкананне ўласнага верша».

**Павел КУЗЬМІЧ**

# З радасцю

У галерэі «VILNIUS» публічнай бібліятэкі № 18 г. Мінска адкрылася выстаўка клуба-студыі «Палітра радасці», прымеркаваная да Міжнароднага дня інвалідаў. Экспануюцца работы, выкананыя ў розных тэхніках: жывапіс, акварэль, бісерапляценне, габелен, саломка, лентачны дызайн, вышыўка. Сярод аўтараў — Наталля Бандарэнка, Аляксей Ляпін, Валянціна Махнач, Надзея Рэшатава ды інш.

Клуб «Палітра радасці», якім кіруе мастачка Ганна Гадзірава, шмат гадоў аб'ядноўвае творчых асоб. Творчасць для ўдзельнікаў студыі — арт-тэрапія. Людзі, якія перажылі трагедыю, спраўляюцца з хваробай дзякуючы мастацтву, дораць радасць і цяпло іншым. Работы таленавітых творцаў прасякнуты дабрынёй. Многія аўтары прымалі ўдзел у шматлікіх конкурсах і выстаўках не толькі ў Беларусі, але і за мяжой.

Адкрылася выстаўка святочным канцэртам: гучалі песні і вершы.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Максім Гарэцкі — па-руску

**28 лістапада ў Доме Масквы пры падтрымцы «Рассупрацоўніцтва» адбылася прэзентацыя кнігі Максіма Гарэцкага «Родные корни. Избранное» ў перакладзе на рускую мову Ідаліі Кананец (выдавецтва — «Выдавецкі дом «Звязда»»).**

Прыемна адзначыць зацікаўленасць творчасцю М. Гарэцкага з расійскага боку. Выконваючы абавязкі Старшыні Федэральнага агенцтва «Рассупрацоўніцтва» Рэспубліке Беларусь Віктар Мічурын прызнаўся, што з цікавасцю слухаў аповесць «На імперыялістычнай вайне» ў выкананні Алега Вінярскага, а са з'яўленнем рускамоўнай версіі твора з асалодай прачытае яго.

Імпрэзу наведалі літаратуразнаўцы Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Міхась Кенька, Ганна Запартыка, Ірына Муфель і, вядома, нязменны кіраўнік Фонду братоў Гарэцкіх Радзім Гарэцкі.

На жаль, перакладчыца кнігі Ідалія Кананец не змагла прыехаць на прэзентацыю, але даслала весточку ад сябе — «Слова перакладчыка да прэзентацыі кнігі Гарэцкага «Родные корни»» — каштоўны літаратурны ўспамін пра тое, як праца над творамі М. Гарэцкага змяніла яе жыццё. Пачалося гэта, як адзначае І. Кананец, у 1987 годзе з ліста ад «Мастацкай літаратуры»: «Да гэтага часу я ўжо ведала і ўсёй душой разумела і прымала Гарэцкага, але нават не сніла, што мне даручаць перакладаць класіка. (…)

Пасля выхаду ў свет «Выбранага» вырашыла пазнаёміцца з Галінай Максімаўнай Гарэцкай. Гэта знаёмства перарасло ў сяброўства: сустрэчы ў мяне і ў яе, дні народзінаў, абмен кнігамі, ледзь не штотыднёвыя тэлефонныя размовы, яе лісты, калі яна ад'язджала ў Мінск, і падараваныя ёю кнігі (чатырохтомнік Гарэцкага і дадатковы да яго аднатомнік, кніга «Апавяданняў» яе маці, пісьменніцы Леаніды Чарняўскай, кніга яе брата «Лісты з фронту», яе ўласная кніга) — і ўсё гэта з чуллівымі надпісамі і «вялікай удзячнасцю».

Сяброўства наша цягнулася да сыходу дачкі М. Гарэцкага ў далейшы незваротны шлях. Я была б нашмат бяднейшая душой, калі б не маё сяброўства з Галінай Максімаўнай».

Нягледзячы на цеплыню ўспамінаў, ліст перакладчыцы быў азмрочаны шкадаваннем, што свет убачылі не два, а адзін том твораў М. Гарэцкага.

Сюрпрызам імпрэзы стаўся фільм «Рускі», які рэжысёр Віктар Аслюк зняў па матывах апавядання «Рускі» з цыкла «На імперыялістычнай вайне».

**Вольга ГУБСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**12 снежня** — *на чарговае пасяджэнне літаратурнай гасцёўні «Дыялог сябroў», у межах якой адбудзецца сустрэча з пісьменнікам, вучоным і педагогам Уладзімірам Навумовічам. Імпрэза пройдзе ў офісе турэцкага грамадскага аб'яднання «Дыялог Еўразія» (вул. Е. Полацкай, 1). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**15 снежня** — *на свята беларускай мовы ў межах Тыдня беларускай мовы з удзелам старшыні МГА СПБ у гімназіі № 146 (вул. Газеты «Праўда», 48). Пачатак у 13:40.*

**16 снежня** — *на творчую сустрэчу з паэтам, празаікам і мастаком Сяргеем Давідовічам у СШ № 60 (вул. Карла Лібкнехта, 82). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**16 снежня** — *на літаратурнае свята, прысвечанае Тыдню беларускай мовы. Мерапрыемства з удзелам групы пісьменнікаў адбудзецца ў гімназіі № 39 (вул. Кунцаўшчына, 10). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**17 снежня** — *на творчую сустрэчу з паэтам і перакладчыкам Лізаветай Палеес. Мерапрыемства адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**18 снежня** — *на свята паэзіі, якое пройдзе з удзелам групы паэтаў у зале дзіцячай паліклінікі № 25 (вул. Адзінцова, 75). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**18 снежня** — *на чарговае пасяджэнне літаратурнага клуба «Парнас», у межах якога адбудзецца творчы вечар паэтэсы Таісіі Трафімавай. Мерапрыемства прайдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

## Іван КАПЫЛОВІЧ



***

Даўно сябрамі я забыты,
І сцюжа грукае ў акно,
Самотай кожны
дзень спавіты,
Ды я чакаю ўсё адно

Тых перамен, дзе мала хмараў
І сонца ўдосталь кожны дзень,
І я ў палоне думак-мараў:
Ад іх настрой і мне ідзе.

Перажыву зіму як-небудзь
І, дачакаўшыся вясны,
Распраўлю крылы,
быццам лебедзь,
Што на чужыне
край свой сніў.

Чакаю гэтых пераменаў,
Дзе ёсць дыханне таямніц.
На полі, ў лузе іх сустрэну
І сам душой схілюся ніц

Прад хараством, дасюль нябачным,
Што струны чуйныя кране
Душы нявопытнай, удзячнай,
Да болю блізкай старане,

Што смагу волі наталяе
Сваіх прастораў шырынёй.
Яна ўзвышае, благаслаўляе,
Каб дзень харошы быў са мной.

***

Буду шчыры зімою і летам:
На якой ні стаяў бы мяжы,
Звязан ніццю адной з белым светам —
Настальгічная стуль міражы.

Да мяне ён уважлівы, строгі,
Папытае не раз, як жыву,
І наказ мне дае на дарогу —
Не губляць ад журбы галаву.

Не ўступаць аніколі ні пядзі,
Калі спрэчка ідзе аб святым,
І нядобрай часінаю ладзіць
З непадкупным сумленнем сваім.

Галасы тут пачутыя, краскі
Непазбыўным набыткам душы,
Сам не свой ад пяшчоты іх, ласкі:
Век мне з імі і жыць, і тужыць.

***

Зіма прыйшла ў сваю пару —
Я з ёй як след пагавару.

Пра ўсё, што легла на душу,
Што я ў сабе ўвесь час нашу.

З чым не расстануся ані,
Чым пахваліцца могуць дні

Святыя, грэшныя, і — той,
Калі зноў буду сам не свой.

Калі нібы парадак, лад,
Ды я чамусьці неўпапад

Раблю не тое і не так —
Нібы расчулены дзівак

Самотным днём па цаліку
Пайду — пачуецца «ку-ку»

У лесе тым, у тым бары,
Дзе баль спраўляюць снегіры.

Зіма паўсюль, куды ні глянь:
Яна — крыж поля і палян.

***

Зімы пачую галашэнне
Сярод глыбокае начы —
Сон прападзе ў адно імгненне,
І я з тым скрушным
летуценнем —
Імчу скрозь поле ў далячынь.

Дыхне зіма мне ў твар сумётам,
Сіберным холадам ільдоў
І ветру стылага самотай,
Што з несхаванаю ахвотай
Зімовы баль спраўляць гатоў.

Перамяце зіма прасёлак
І сцюжай выйдзе на бальшак
Парой, калі сцюдзёны золак,
П'ючы святло світальных зорак,
Зямны свой шлях
прайсці спяшаў.

Дзяліцца буду я са сцюжай
Бяссоннем доўгае начы.
Я не пакутую двурушшам,
Да сцюжаў быў нераўнадушны —
Час сцюжны чуйнасці вучыў.

Я перайду рубеж зімовы
І зажуруся — згіне снег.
Ён ручаём звініць вясновым,
Абудзіць сны невыпадкова,
Журба па ім — вясновы грэх.

## Валянцін ШВЕДАЎ



***

Калі ў горад сабраўся ехаць
з нашай глушы,
Помню, маці прасіла:
«Ты, сынок, напішы!»
І вучобу я скончыў, і пайшоў
працаваць...
Калі ўсё ідзе добра —
што дадому пісаць?

І сям'я ўжо, і дзеці —
тут пішы
ад душы!
...Толькі спіць ужо маці
ў магільнай цішы.
Па ўсіх нас адбалела, мама,
сэрца твае.
Адышоў ад цябе я,
як ад дрэва галлё.

Вось і ўнук ажаніўся,
стаў сталічным і ён,
Рэдка з горада едзе
да бацькоў
на паклон.
Дні сустрэч-гасцявання —
як святочныя дні...
І гучыць у расстанні:
«Ты, сынок, пазвані».

***

Я помню, зязюля ў дзяцінстве кувала,
Гадоў налічыла ні многа, ні мала.
Ды толькі пражыць іх нялёгкая справа:
Мінаюць чамусьці багацце і слава,
На шчасце адна застаецца надзея,
І тая згубілася недзе ў завеях.
Прад вечнасцю ўсё выглядае нікчэмна...
Вось верш напісаў — мо жыву недарэмна.



Фота Кастуся Дробава

## Алёна ЯСЭК



## Снежаньскі вечар

Неба, усланае зорамі,
сон берагло над прасторамі.
Месячык, жоўты, мядовы,
месціўся ўвесь на далоні.

Вуліца як бы вузейшая
стала ўвечары нечага.
Снег,
яснавокі,
пушысты,
падаў, як спелае лісце.

Быццам не ўшлі,
а ляцелі мы
разам вятрамі-надзеямі.
Як лагодна прывеціў нас
снежня бязветраны вечар.

***

Назбіраю прыгаршчы насення:
хрызантэмы, ліліі,
цюльпана,
хай зямлю агорне іх карэнне
на халодным пляцы
майго пана.
Хай адорыць фарбамі і смакам
гаспадыню і гасцей сядзібы.
Я тады магла
б ужо плакаць,
стаць усе шчаслівымі
маглі мы.

***

Не трэба многа гаварыць:
я ўсё і так цудоўна бачу.
Ужо ля брамкі на двары
заўважу:
ўсё цяпер інакш.

Няма язміну, бэзу, руж,
даўно згніла за хатай лаўка.
І стол заслаў чужы абрус...
І ранак не агорне ласкай...

Я буду думаць аб былым,
як тут было з бабуляй міла,
і як яна жыццём сваім
мяне шчасліваю рабіла.

## Зімовыя карункі

Зімовыя карункі спяць
на шыбе,
мацнеюць і мацнеюць маразы.
Старэнькі кот спяшаецца
па прызбе
хутчэй дадому з холаду ўцячы.

«Сапраўдная зіма», —
адзначыць хтосьці.
«Захаладна», — пажаліцца другі.
А я хачу вясны
і маладосці,
каб шчасце трапяталася
ў душы.

***

Гарбату на стале
і зоры ў небе,
сваё жыццё табе я прысвячаю.
І вечар залаты і ранак
срэбны
з табой у думках
зноўку падзяляю.

Прыгожы і разумны, —
адзінокі...
Шчаслівы —
не шчаслівы, —
не згадаю.
Плывуць, не аглядаюцца аблокі,
а я цябе кахала і кахаю.

Іван КАНАНОВІЧ

# Перламутравыя боцікі



На пачатку змены Насця Клімковіч няспешна зайшла ў гардэроб, паставіла вядро з вадой, прыхіліла да сцяны швабры і ўзялася наводзіць парадак — вымятаць смецце, падбіраць чорныя ад друкарскай фарбы шматкі паперы. Чыстай паперай друкары прызвычаіліся выціраць рукі, і ў яе склалася думка, што гэта яны робяць знарок, асабліва пасля абразлівых, крыўдлівых слоў выскалякі-рагатуна Венькі Хлышча, які ў канцы змены сказаў з едкай усмешкай:

— Кідайце пад ногі — Насця падбярэ, не ўломак, няхай дадатковую сметніцу паставіць, яна не дужа перапрацоўвае: швабрай пратрэ падлогу, ды пыл збольшага змахне.

Ад здзеклівых і незаслужаных папрокаў было скрушна і маркотна, але нікуды не падзенешся — трэба цярпець і на штосьць спадзявацца. У друкарню яна ўладкавалася па сумяшчальніцтве, каб сабраць грошай і купіць дачцэ Шуры якую абнову — дзяўчына заканчвала дзесяцігодку.

Тут, у друкарні, працаваць было значна лягчэй, чым у механічным цэху, дзе даводзілася ўсю змену выграбаць з-пад станкоў і грузіць у металічныя скрыні саўковай лапатай яшчэ гарачую, пасінелую ад тэмпературы стружку. Ад станкоў-аўтаматаў змеямі цягнуцца і шыпяць на прамасленай падлозе бясконцыя пасінелыя спіралі, напаўняючы цэх смуродам.

Трэці дзень яна завіхаецца ў друкарні — работа звыклая, ніхто не прыспешвае, толькі гэтыя абрыўкі паперы ў чорнай фарбе раздражняюць. «Ды нічога, прызвычаюся», — супакойвала яна сама сябе ў такія хвіліны.

У першы дзень, калі прыйшла сюды, адразу нават спалохалася шыльды на дзвярах: «Дырэктар друкарні». Яна ведала, што ёсць дырэктар завода, а ўсе астатнія кіраўнікі — начальнікі цэхаў. А тут на табе — ёсць яшчэ адзін дырэктар, у друкарні, куды яна ўладкоўвалася.

Набралася храбрасці — зайшла і, на здзіў самой сабе, убачыла сапраўднага дырэктара — мажнага рослага мужчыну з суровым тварам, густой чорнай шавялюрай, чыста паголеным тварам і ямкамі на шчоках.

— Глінскі Мікалай Іванавіч, дырэктар, — з гонарам прадставіўся ён і намаляваў ёй ружовую перспектыву: — Часова папрацуеце тэхнічкай, пазнаёміцеся з калектывам, наберацеся вопыту — перавядзём на новую работу: вакансій у нас шмат, спецыялістаў не хапае.

Дырэктар вызначыў фронт работы.

Насця працавала, старалася, за дзве-тры гадзіны паспявала памыць падлогу, выцерці пыл, якога надзвычай баяўся дырэктар. Ён і па ўчастках заўсёды хадзіў, прыкрыўшы рот вільготнай насоўкай — засцерагаўся ад свінцовых выпарэнняў — і заўжды папярэджваў яе:

— Кабетка-руплівіца, працуй сумленна, бо нядаўна санэпідэмстанцыя ў нас выявіла значнае павелічэнне свінцу ў паветры.

Аддаў распараджэнні і, не адхіляючы мокрай насоўкі з твару, хуценька знік у сваім дырэктарскім закутку-кабінеце, шчыльна зачыніўся, як зразумела яна, — адгарадзіўся ад свінцовага пылу.

З павучаннямі-натацыямі, якія з цягам часу Насці абрыдзелі, Глінскі звяртаўся кожны дзень, і яна паступова перастала звяртаць на іх увагу. Старалася наводзіць чысціню да бляску, каб языкатыя друкаркі і наборшчыцы не мянташылі пра яе абы-чаго і не даносілі дырэктару.

Управіцца з прыборкай — сядзе каля акенца ў дзвярах і чакае наведвальнікаў, якія штодзень прыходзяць забіраць свае заказы. Такая служба ёй надзвычай падабаецца. Да яе звяртаюцца інтэлігентнага аблічча мужчыны, расфуфыраныя і фанабэрыстыя жанчыны — ніхто без яе дазволу не мае права пераступіць парог друкарні. Нават порсткіх мужчын Насця прыпыняе патрабавальным тонам:

— Чакайце Мікалая Іванавіча. — І выклікае шэфа.

Той няспешна з'яўляецца ў дзвярах і дырэктарскім уладным голасам адказвае на пытанні заказчыкаў, не знімаючы з твару засцерагальнай хусцінкі…

Яна закончыла прыбіраць жаночы гардэроб, як позірк спыніўся на ладным скураным кашальку насупраць шкафчыка друкаркі Волькі Залескай, спрытнай да работы і апантанай памянташыць языком, пахваліцца сабой і сваім сямействам. Не лянуецца нават дзяцей прыводзіць у друкарню, і ў першую чаргу разадзетую каралевай дачку на выданне. Усе ведалі, дзе будзе вяселле і колькі збіраецца гасцей. Запрошаны дырэктар друкарні і яго намеснік, а ёй, Насці, балаболка пра вяселле нават не сказала.

Дрыготкімі пальцамі Насця расшчапіла кашалёк і пералічыла грошы, цэлы пачак, і ад убачанай сумы ажно кальнула ў сэрцы. Учора з дачкой прымяралі перламутравыя боцікі — акурат у гэтую цану. Надоечы ў такіх боціках прыводзіла ў друкарню і Волька сваю дачку-выданніцу. Насці падалося, што асігнацыі, як гарачыя, апякаюць ёй пальцы, а перад вачыма мільгаць тыя ўчарашнія боцікі Вольчынай дачкі, у якіх тая фарсіста, як на подыуме, прабягала па друкарні. Колькі хвілін вагалася: што рабіць са знаходкай. Згадаліся бацькавы словы: «Нікому не шкадуй, нікому не зайздросць, знойдзенае не бяры — сваё згубіш». У мудрасці продкаў пераканалася сама. Нейк, гуляючы па парку, знайшла залатую завушніцу. У бюро знаходак не мела часу звяртацца. Паклала ў пудэлачак і неўзабаве на завушніцу забылася. Згадала толькі тады, калі ў тым жа самым парку згубіла свой залаты ланцужок з кулонам. З тае пары не падымае знойдзенага: ні каштоўнасцей, ні грошай.

Аднаго дня Насця вяртаецца дахаты. Перад ёю спяшаецца спорным крокам салідны мужчына і на хаду імкнецца похапкам вывудзіць з кішэні пачак цыгарэт. Насця ззорыла: цыгарэту паспешна прышчаміў губамі, чыркнуў запальнічкай і, ахінуўшыся духмяным дымком, падаўся далей, а на грошы, якія выграб разам з цыгарэтамі, не звярнуў увагі — ішоў размашыста, без клопату. Яна падняла ладны стосік асігнацый, бегма дагнала разявяку, кранула за вішнёвы пінжак:

— Мілы чалавек, вы грошы згубілі — забірайце…

Той ад яе пявучага голасу раптоўна знерухомеў і ліхаманкава палепаў па кішэнях, выказаўся ўслых, з вязнай разгубленасцю на прывабным, дагледжаным твары:

— Трэба ж так! Бягу чалавеку пазыку аддаваць, а тут раптоўная згуба, — незнаёмец, забіраючы згубленыя грошы, шчыра падзякаваў Насці: — Вельмі вам удзячны, красуня.

З грашовага стоса ён выбраў некалькі купюр саліднай вартасці, прапанаваў Насці:

— Гэта, цудоўная кабетка, вам ганарар за знаходку і шчырасць. Бярыце, не саромцеся, вы мне такую боскую ласку зрабілі, што ў галаве не ўкладваецца, — бурна радаваўся чалавек, ажно паблізу пачалі спыняцца прахожыя і ўслухоўвацца ў іх гаворку.

— Ні ў якім разе, — рашуча адхіліла яна спружыністую руку незнаёмца і, помнячы бацькаву навуку, патлумачыла: — Ніколі не бяры знойдзенага — сваё абавязкова згубіш, жыццё мяне навучыла, дый разумныя людзі так раяць.

Незнаёмец надзейна схаваў вернутыя купюры.

— Упершыню сустракаю чалавека, які ад дармэных грошай адмаўляецца — дзіва несусветнае. Тады прапаную любога дня сустрэцца і адзначыць гэту падзею — вазьміце маю візітку, сазвонімся. — Чалавек адчуваў сябе разгублена, ніякавата: — Як, зрэшты, вас завуць? — ахінуў ён жанчыну з галавы да ног амаль ці не закаханым позіркам.

— Насця! — вырвалася ў яе міжволі. — А прозвішча Клімковіч.

— Мяне завуць Яўсей Карнілавіч — прадпрымальнік, займаюся будаўнічым бізнесам, — прагучаў упэўнены голас саліднага чалавека з непрыхаваным падтэкстам: — Халасцяк.

— Я таксама не маю мужа, небараку хвароба невылечная скасіла, а дачка школу гэтым летам заканчвае, наважваецца ў інстытут паступаць.

Твар бізнесмена стаў сур'ёзны, незнаёмец паспешна зіркнуў на гадзіннік, пытаючы:

— Дайце, Насцечка, свой тэлефон. Я спяшаюся — людзі чакаюць.

Яна назвала свой нумар і здзівілася: салідны кавалер не запісаў лічбаў, здагадалася, што зафіксаваў іх на мабільнік, які падчас гаворкі трымаў напагатове.

На гэтым яны развіталіся…

Праз некалькі дзён пасля нечаканай сустрэчы бізнесмен пазваніў ёй і запрасіў у рэстаран з умольнай просьбай, каб прыйшла абавязкова з дачкой. Просьбу гэтую яна выканала. І прызначаная сустрэча надоўга запамяталася, бо пасля спаткання бізнесмен надоўга з'ехаў у замежную камандзіроўку, і тая падзея пачала паступова забывацца.

Каб не гэты Вольчын кашалёк з грашыма, яна б, пэўна, і не ўспомніла тое выпадковае знаёмства.

Насця скончыла прыбіраць гардэроб, не ўяўляючы сабе, куды пакласці Вольчын кашалёк. Пакінуць навідавоку нельга — нехта ўбачыць і адразу «прысвоіць ногі». Асцярожна, як міну, узяла знаходку і падпіхнула пад шкафчык — там ніхто не знойдзе. І сама сабе задаволена ўсміхнулася. Пра танныя перламутравыя боцікі ўжо не думалася.

Перад абедам сцены друкарні захісталіся ад жаночага крыку-лямканту. Вызначаўся піскліва-ўедлівы Вольчын галасок, змешаны са слязьмі і праклёнамі: «Каб таму рукі паадсыхалі і вочы аслеплі, хто ўкраў мае грошы!..» Вэрхал у друкарні мацнеў, нарастаў з кожнай хвілінай, ператвараючыся ў неўтаймаваную буру. Невядома, колькі б часу бушавала жаночая стыхія, каб не расчыніліся скрыпучыя дзверы дырэктарскай шпакоўні-кабінета і не прагучаў уладарны голас гаспадара:

— Што за мітынг, чаму не працуеце, дзе майстры?

З гаманкога рою жанчын вылучылася наперад заплаканая Волька і, перасільваючы ўсхліпы, ледзь прамовіла:

— У мяне грошы ўкралі.

— Як укралі? Хто?.. — здзіўлены небывалым здарэннем, дырэктар раптоўна адхінуў з твару хусцінку, што засцерагала ад свінцовых выпарэнняў, чаго да гэтага ніколі не рабіў. Хтосьці з майстроў нават ціха хіхікнуў.

Гаспадар друкарні ці ад нечаканай навіны, ці з пярэпалаху — такога ў калектыве не здаралася — распарадзіўся рашуча і строга:

— Зараз вызываем міліцыю з сабакамі. — І да Насці: — Замкніце дзверы, нікога не пускайце і не выпускайце, будзем лавіць злодзея.

Жанчыне ад надзвычай суровага патрабавання шэфа стала смешна, і яна прылюдна ледзь не зарагатала, але неяк перамагла свае пачуцці, стрымалася і з намаганнем вымавіла:

— Зраблю, як вы загадалі.

У гаворку ўключыўся адзін з майстроў, хударлявы тварам і цыбаты постаццю Генадзь Свідрыгайла, які ў дырэктара лічыўся першым намеснікам:

— Ці варта з-за нейкай дробязі турбаваць міліцыю, у яе і без нашай друкарні клопатаў хапае. Давайце самі пашукаем прапажу, тым больш у нашым калектыве ніколі не здаралася такога. Знойдзем!.. Хто са мною — прашу! — па-камандзірску узмахнуў ён рукой у кірунку жаночага гардэроба.

Ад палымяных слоў заўсёды спачувальнага, памяркоўнага майстра ў Насці палагоднела на душы, яна ўздыхнула з палёгкай, як цяжар з сябе скінула, і пакіравалася на сваё вахцёрскае месца з тумбачкай, тэлефонам і колішнім расхістаным дырэктарскім крэслам, пра якое пляткарылі розныя байкі і легенды, аброслыя таямніцамі кахання маладога гаспадара. Яна бачыла, як выструніліся роўным ланцужком па-службовым ранжыры работнікі і рухава пашыліся ў жаночы гардэроб на пошук прапажы. Колькі хвілін сцішана шнырылі, чутны былі каманды-распараджэнні Свідрыгайлы: «Уважліва пераглядайце ўсе шафкі, пад нізам прыглядайцеся — мо туды ўпаў». Колькі хвілін стаяла памінальная цішыня, да яе слыху далятала слабае шархаценне жаночых рук, быццам яны лавілі мышэй ў пуні, ды сцішаны голас галоўнага дружынніка…

Нарэшце, як гром сярод яснага неба, выбухнуў з гардэроба знаёмы да болю Вольчын голас:

— Людцы мае… Знайшоўся! Во ён, ляжыць пад шафкай. Ляжыць і не шманае!

Узмакрэлая, быццам толькі з вады, ускудлачаная, з бляскам шэрых вачэй Волька Залеская тарпедаю выслізнула на праход, прыціскаючы знаходку да грудзей кашалёк — сваю незвычайную каштоўнасць, і ад радасці тройчы перахрысцілася на бягу.

Дырэктар грузна пераступіў з нагі на нагу, як слон на цыркавой арэне, і голасна ўсміхнуўся:

— Усё правільна, сябры! Інакш у нас быць не можа…

Яго думку дружнай сарочай гаманой пацвердзілі жанчыны, якія высыпалі гуртам з гардэроба і гатовыя былі шчыра абдымаць свайго нязменнага важака.

Насця сядзела на хісткім дырэктарскім крэсле-троне ў роздуме, што са знаходкай усё добра скончылася. Яна радавалася за сябе, за сваіх бацькоў, якія не квапіліся на чужое і яе змалку вучылі дабрацэ і шчырасці. «Во як бацькоўская навука спатрэбілася сёння», — разважала Насця Клімковіч, у каторы раз згадваючы нечаканую падзею і шчаслівы фінал.

Плынь яе разважанняў перапыніў працяглы залівісты званок, як зразумела — міжгародні. Разгублена ўхапіла і ледзь не выпусціла з рук трубку, пачуўшы знаёмы і надта блізкі для яе голас Яўсея Карнілавіча. Месяц пасля іх знаёмства і расстання здаўся вечнасцю. І вось яно — доўгачаканае тэлефанаванне.

— Я заўтра вяртаюся з камандзіроўкі — вельмі хачу пабачыцца, без цябе вельмі сумую…

— З нецярпеннем чакаю, — толькі і паспела яна сказаць — трубка запіпікала кароткімі гудкамі.

«Пагаварыла, расцяпа», — папракнула сама сябе жанчына, быццам была вінаватая ў нечакана перапыненай гаворцы. І перад вачыма выразна паўстала, як кадры любімага кіно, тая іх першая сустрэча, тое блізкае іх знаёмства.

# У чым абвінавачваць крытыка?




Чарговы нумар «Полымя» з задавальненнем пагартаюць аматары публіцыстыкі. У рубрыцы «Дыскусія» галоўныя рэдактары розных мастацкіх выданняў разважаюць «дзе?», «як?» і «каму?» пісаць пра мастацтва. Людміла Грамыка, Святлана Уланоўская, Марына Давыдава, тэатразнаўца Наталля Якубава пераважна звяртаюцца да тэатральнага жыцця — і для прадстаўнікоў Беларусі вельмі актуальнае «пытанне наяўнасці глыбокай, прафесійнай мастацтвазнаўчай і культурнай аналітыкі».

Прадмова Юліі Алейчанка да своеасаблівага паэтычнага біенале стала цікавым праблемным артыкулам, дзе сабраны і пракаментаваны заўвагі маладых аўтараў датычна сучаснага літаратурнага працэсу. Прадмова відавочна разлічана на рэакцыю з боку крытыкаў, пісьменнікаў, чытачоў — і чаму б праз зварот да твораў новага нумара не абмеркаваць асобныя пытанні на старонках «ЛіМа»?

«...востра праблемай маладыя паэты лічаць нераспрацаванасць аб'ектыўных крытэрыяў ацэнкі паэтычнага тэксту». Як выяўляецца, гэта праблема мае некалькі аспектаў. У тым ліку нібыта шчырае захапленне творамі сярэдняй мастацкай вартасці з боку (нібыта?) прафесійных крытыкаў. Гэта сапраўды можа ўвесці ў зман чалавека, які пачынае літаратурную творчасць, але зварот да небеларускіх выданняў дапаможа пазбыцца ружовых акуляраў. Дарэчы будзе працытаваць тут рэцэнзію Вячаслава Піліпенкі на паэтычны зборнік «Наталенне Радзімай»: «У М. Пазнякова нямала вершаў, ад якіх атрымліваеш тую дзіўную асалоду, якая звычайна напаткоўвае цябе, калі сустракаешся з мясцінамі, даўно і добра вядомымі, неаднойчы ходжанымі і пераходжанымі». Кансерватыўны чытач можа адчуваць «дзіўную асалоду» не столькі ад паэзіі, колькі ад магчымасці вандраваць па старых сцежках, бо новыя шляхі рызыкоўныя і нязвыклыя. Паверыць у гэта можна — і абавязкова трымаць на ўзбраенні!

Другі аспект праблемы — «адсутнасць выразных аб'ектыўных патрабаванняў», якіх аўтары чакаюць ад крытыкі. Такія патрабаванні варта шукаць хутчэй у навуковай літаратуры, чым у крытычных рэцэнзіях, і будуць тычыцца яны асобна жанру, метрыкі, сюжэтабудовы. Між іншым «рэцэнзіі з патрабаваннямі» таксама з'яўляюцца: пісьменніку пашанцавала на добрую знаходку, і твор мог атрымацца выдатным, але... Тут крытык дае прастору свайму ўяўленню і пачынае пазначаць, што трэба было зрабіць, каб давесці справу да ладу.

Напрыклад, у містычнай аповесці Віктара Кунцэвіча «Вярні маю душу...» ёсць інтрыга, якая можа «трымаць чытача да апошняй старонкі». Таксіст пазайздросціў кіроўцу суседняга «лексуса», і злы чорцік зрабіў так, што душа Андрэя Хруцкага трапіла ў цела Альфрэда Борчыка (і наадварот). Жонка паспяховага бізнесоўца Борчыка была каханай дзяўчынай Андрэя, але галоўны герой ужо мае сям'ю. Рэпліка з твора: «Падобныя сюжэты я бачыла ў кіно, але калі такое робіцца ў жыцці — гэта страшна».

Падзеі, верагодна, адбываюцца летам — але чаму б пісьменніку не напісаць аповесць як christmas-story, дзе містыка была б больш дарэчы? Пабліскваў бы сняжок і елачныя цацкі, бруілася залатое шампанскае. Героі маглі б быць нечым падобныя да амерыканскіх акцёраў, а рэаліі можна пакінуць нашы: старое таксі, бальнічная палата з дзясяткам ложкаў, пільная кансьержка Васільеўна ў гасцініцы. Насуперак дзелавой Наташы жонка Андрэя магла быць не звычайнай забеганай кабетай, а больш жаноцкай, сумнай, выкшталцонай...

Вельмі часта за такімі патрабаваннямі крытык не паспявае пазначыць, што ўжо зроблена пісьменнікам, як ацэньваць напісаную ім рэч. Прапаноў па ўдасканаленні твора можна зрабіць нямала, але хто іх будзе здзяйсняць? Адна справа — калі яны гучалі б ад суаўтара ці рэдактара, іншая — калі іх выказвае крытык, які мае справу з апублікаваным тэкстам. Але, магчыма, яны дапамогуць каму-небудзь у працы над іншым творам — і менавіта гэта маюць на ўвазе маладыя аўтары «Полымя», калі небезпадстаўна скардзяцца на недахоп «аналітычных матэрыялаў пра сучасную паэзію».

Калі крытык часам павінен выяўляць аб'ектыўныя заканамернасці, то з боку паэтаў, натуральна, вітаецца суб'ектыўнасць. Добры паэт мусіць быць унікальным — нават у вершах пра блізкія кожнаму рэчы. Так, лепшыя творы з падборкі Міколы Мятліцкага прываблівающь шчырым уласным здзіўленнем і хваляваннем, у іх няма паэтычнай позы, а ўзнёслы словы часам прамаўляюцца з іроніяй.

Магчыма, для лірыкі інтравертнасць — «гэта прыўкрасна», але было б нябляга, каб хтосьці з паэтаў пісаў і ад імя «нас» — пра агульнае, жыццёвае, сацыяльнае, але без публіцыстычнага пафасу.

Асаблівасцю сучаснай беларускай літаратуры, па думку Ю. Алейчанка, з'яўляецца «немагчымасць выдзеліць лідараў», што тлумачыцца «невысокай якасцю камунікацыі паміж аўтарам і чытачом» і, магчыма, — засмечанасцю каналаў, па якіх гэта камунікацыя адбываецца. Сапраўды, вылучыць лепшых павінны хутчэй чытачы, а не прадстаўнікі літаратурнага асяроддзя, бо сёння таленавітых аўтараў у розных пакаленнях будзе не тры, і не сем, а некалькі дзясяткаў. Зрэшты, нават сярод адзінаццаці маладых паэтаў, творы якіх змешчаны пад агульнай прадмовай, выбраць лепшых не проста. Уласна мне найбольш спадабалася «Акцёрка Купалаўская» Рамана Абрамчука — але выбар І. Саверчанка, У. Ліпскага, У. Гніламёдава, М. Кобец ды іншых аўтараў гэтага «Полымя», магчыма, будзе зусім інакшым. І гэта нармальна!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Цяжкое восеньскае рэха

Лістападаўская «Маладосць», калі меркаваць па мастацкіх творах нумара, стваралася выключна з разлікам на ўспрыманне змрочнай восеньскай ноччу. Чытач, які пакуль не разгортваў часопіс, мусіць паспець азнаёміцца са зместам № 11 да снежаньскіх свят.

Мінорны настрой задаецца з першай старонкі, якая «запрашае гартаць мінулае, бо ў ім больш новага і пэўнага, чым у спрэчнай ды надакучлівай сучаснасці, ці не так?» Магчыма, гэтым падступным пытаннем «Маладосць» хацела выклікаць свайго маладога чытача на дыскусію.

У рубрыцы «Тэма» Святлана Сітнік з трох пунктаў погляду — медычнага, ахвяры і бацькоў — разглядае праблему так званых «спайсаў». Безумоўна, праблема актуальная — але наколькі яна актуальная для аўдыторыі «Маладосці»?

Адразу за вострасацыяльнай публікацыяй пачынаецца раздзел паэзіі, і назва першай нізкі — «Цудоўнейшы ўзрост». Неадназначнае суседства не замінае юнай Аляксандры Фагот распавесці, чым жа яе ўзрост адметны. Вершы абаяльныя, хоць і не заўсёды аўтарка знаходзіць сілы ўтаймаваць пачуццё і больш пэўна, ясна выказаць думку. Словы ў яе альбо падпарадкоўваюцца пачуццю, альбо не падпарадкоўваюцца нікому. Адсюль і прыкрае, хоць і звыклае для пачаткоўцаў, шматслоўе, якое, на думку аўтаркі, незаўважна для чужога вока можа выцягнуць памер.




Заканчваецца «Вертэраўскія пакуты», пачынаецца навела Алены Гануліч «Назіральнік». Назіральнік — гэта нешта кшталту анёла, толькі ніжэй рангам. Цікава, што ва ўяўленні аўтаркі і «там» існуе няроўнасць: анёлы паглядаюць на назіральнікаў звысок. Апошнія — са сваёй вышыні — сочаць за жыццём людзей. Сюжэт не новы, асабліва ў кіно. Гэтым разам назіральнік наглядае за дзяўчынкай з «праблемнай» сям'і. Кожны, думаецца, сутыкаўся з такімі дзецьмі і ведае, як яны глядзяць на іншых дзяцей, на дарослых, на свет, таму нельга сказаць, што аўтарка арыгінальная ў падачы матэрыялу. І ўсё ж ідэя вартая, калі распрацаваць яе глыбей.

У паэтычнай форме разважае пра стасункі з Богам і яго ролю ў жыцці чалавека Настасся Нарэйка. Цікавы як эксперымент твор літаратурнага дуэта Чараухіных. І зноў трансцэндэнтнае — але на якасна іншым мастацкім узроўні — у паэзіі Алеся Дуброўскага-Сарочанкава («І пакуль не згадала цябе пустата — пра сябе жыццю нагадай»). Памяці дзеда прысвечаная паэма (паэма?) Віктара Яраца «Вытокі рэха».

«Дзённікі страчанага кахання» прапануе чытачу Ліна Кот. Калі гэта чытач сталы ці, прынамсі, ужо здольны цвяроза ацаніць сваё першае каханне, то «Дзённікі» могуць падацца наіўнымі, да таго ж твор пазбаўлены мастацкасці (калі не лічыць рэдкія метафары, як, прыкладам, заторгнутыя шторы=сыход гераіні ў сябе). У чытачак-аднагодак гераіні можа ўзнікнуць натуральная цікаўнасць да сюжэта. Аднак тут бачыцца пэўная легкадумнасць аўтаркі: закранаючы вельмі важныя пытанні — наркотыкі (другі раз за нумар), полавыя адносіны, вернасць у сяброўстве, — яна заўжды прамаўляе ад імя дзяўчыны, якая сама не надта цяміць ува ўсім пералічаным. Напрыклад, сяброўка гераіні становіцца нарказалежнай і — лёгка вылечваецца. Ці адбываецца тое ж у жыцці, не станем пытацца. Альбо: учора гераіня кахала аднаго, сёння сустракаецца з другім, заўтра — з трэцім. Рэалістычнасць карціны не можа быць апраўданнем таму, што падаецца яна як норма, — а ўсё праз няўдала абраную форму твора. Разумею, такія развагі выглядаюць нудна, але аўтар мусіць памятаць пра адказнасць перад чытачом, хоць апошнім часам гэта і адпрэчваецца як рудымент.

І ўпэўненую рысу пад змрочнай часткай № 11 праводзіць аповесць (аповесць? хто вызначае жанры ў часопісе?) Анатоля Кудласевіча «Хрыстосік». Па назве няцяжка здагадацца, што галоўны герой — шукшынаўскі «дзівак», які трапляе на перасячэнне двух рэхаў — «Палаты № 6» Чэхава і паўпрытомных разваг Дастаеўскага. Але — толькі рэха, і тым больш гнятлівае ўражанне пакідае пасля сабе твор.

Добра, што проціяддзе ад тугі змешчана тут жа — у навукова-публіцыстычнай частцы і перакладах адметных вершаў амерыканскага паэта Джыма Макгэра.

**Наста ГРЫШЧУК**

*Надрукавана ў «Нёмане»*

# Рабінзон жывы

Адзін з самых любімых і дасюль папулярных літаратурных вобразаў — Рабінзон Круза. Вымушаны пачынаць з нуля, спадзеючыся толькі на сябе, змагацца з прыродай і выжываць у гэтай барацьбе 28 гадоў, ён нязменна жыве ва ўяўленні малых і вялікіх дзяцей. Кіно і літаратура з неаслабным поспехам выкарыстоўваюць гісторыю, якой сёлета, дарэчы, споўнілася 295 гадоў.

«Нёман» за лістапад прапануе яшчэ адзін варыянт класічнага сюжэта — раман Леаніда Чыгрына «Таёжны рабінзон». Ахмад, несправядліва асуджаны на найвышэйшую меру пакарання, цудам збягае з-пад канвою і апынаецца ў тайзе. Як і літаратурны продак, Ахмад наладжвае быт (такія апісанні заўжды выклікаюць непадробную ўвагу), прыслухоўваецца да прыроды, знаходзіць свайго Пятніцу — пясца Баеза, разважае пра чалавека, рэлігію, сэнс жыцця і г. д. Але ў параўнанні з Рабінзонам, ён не падладжвае прыроду пад сябе, глядзіць на яе не як на рэсурс ці ворага/памочніка, але як на суседа, ён ужываецца ў яе, становіцца неад'емнай часткай — так што, правёўшы 35 гадоў у тайзе, адмаўляецца вярнуцца да людзей.




Ёсць яшчэ адно істотнае адрозненне: Рабінзон амаль увесь час правёў на самоце, у той час як Ахмад рэгулярна — хоць і з вялікімі прамежкамі часу — бачыўся з людзьмі. Спачатку яго напаткалі стараверы, якія і далі Ахмаду шанц пачаць новае жыццё — але асобна ад іх, бо ён — чужак, ерэтык. Затым — выпадковая сустрэча з ненцамі, але і гэтыя людзі яму чужыя. Ён прызвычаіўся да суседства жонкі, але і з ёй давялося расстацца. Рэдкія сустрэчы з людзьмі не прыносяць герою радасці, не вылечваюць яго самоты, дзякуючы чаму ён і займеў права звацца Рабінзонам.

У меншай ступені раман пабудаваны на развагах Ахмада, у большай — на апісаннях убачанага. Апісанні гэтыя вельмі скупыя, ім часам бракуе вобразнасці. Сустракаюцца неадпаведнасці ў маўленні герояў, прыкладам, для чалавека, які 35 гадоў правёў у тайзе, герой ужывае занадта складаныя фразы. Таксама варта было б прыхаваць т. зв. «мараль твора», не вылучаць яе ў асобны абзац (чытач у стане сам зрабіць высновы).

Але пры ўсім гэтым твор чытаецца з цікаўнасцю, што лішні раз даказвае неўміручасць Рабінзона.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Шпацыр над вялікім вірам

**На прэзентацыі трэцяй часткі прыгод Пранціша Вырвіча, які быў спачатку шкаляром і шпегам, потым — студыёзусам, а цяпер стаў драгунам, крытыкі выказалі думку, з якой я ахвотна пагаджуся: калі Уладзімір Караткевіч пісаў пра беларусаў узнёсла (нават калі дакараў за тую ці іншую правіну), то Людміла Рублеўская іранізуе, іранізуе і зноў іранізуе.**

У гэтым палягае вызначальнае адрозненне паміж двума пісьменнікамі. Пасля прэзентацыі трэцяй кнігі давялося пачуць яшчэ адно чытацкае меркаванне, сціслае і ёмістае: «Рублеўская — проста космас!».

Адкуль такая любоў (а зачыталіся трылогіяй нават крытыкі)? І адкуль параўнанне з Караткевічам?

Той, хто чытаў хоць адну з частак, скажа адразу ж: абое пішуць пра гісторыю. Але і Дайнека піша пра гісторыю, і Арлоў, і Наварыч... Чаму ж параўноўваюць менавіта з Уладзімірам Сямёнавічам? Справа ў тым, што творы Рублеўскай і Караткевіча гістарычныя ўмоўна (асабліва калі казаць пра раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»), і пішуць яны не пра тое стагоддзе, у якім адбываецца дзея. Гісторыя — стракаты, маляўнічы, удзячны фон, скарбніца колераў, гукаў і водараў. Калі ў творах і ёсць спробы разабрацца ў драматычных падзеях гісторыі — паўстанні Каліноўскага ці падзелах Рэчы Паспалітай, — то дзеля таго, каб разабрацца ў тым, што адбываецца сёння. Ад любой падзеі ў творах пісьменнікаў можна перакінуць масток у сучаснасць. Любую фразу, у якой робіцца падсумаванне падзей ці ацэньваюцца рысы герояў (нацыянальныя рысы), можна ўжыць адносна дня, у якім твор чытаецца. Чытач ідзе ўздоўж гістарычнай ракі, натрапляе на адзін з такіх масткоў і пераходзіць на іншы бераг, і гэта вельмі прыемна: шпацыр па-над вірам, у якім патанула безліч ахвяр, заўжды казыча ўяўленне і натхняе на маленькія подзвігі. Напрыклад, загаварыць па-беларуску. Ці ўзяць падручнік па гісторыі, каб потым з яго дапамогай перакінуць свой масток з сучаснасці ў мінулае, з мінулага — у сучаснасць.



*Баўтрамей Лёднік — «наша ўсё».*

Але на гэтым іх падабенства заканчваецца. Караткевіч, хоць і глядзеў цвяроза на свой народ, усё ж любіў яго дзіўнай любоўю: не за нешта, а проста таму, што свой. Гэтая ўлюбёнасць нязменна агортвалася рамантычнай узнёсласцю. Калі ж Уладзімір Сямёнавіч выяўляў гнеў праз адвечную беларускую абыякавасць, баязлівасць, пасіўнасць, пачыналі гучаць інтанацыі кшталту «я зжэр бы свой народ» А. Сыса. Не літаральна, канечне. Вынішчыць старога беларуса, каб нарадзіць новага, — гэта У. Караткевічу падалося б як меней шаленствам. Тут маецца на ўвазе тая ж любоў, якая ўсяго толькі змяняе спосаб выражэння: з пяшчоты на гнеў, з захаплення — на абвінавачванне.

Гэта не значыць, што Л. Рублеўская не любіць беларусаў (адзначаю адмыслова для тых, хто апантана вышуквае ворагаў беларушчыны). Проста яна інакш глядзіць на іх/нас. Не клапатлівае стаўленне айца, які проста любіць, але погляд на роўнага сабе, якому можна выказаць усё. І яна выказвае — без папрокаў, без драматычнага надрыву (хоць месцамі словы пра Беларусь, якія пісьменніца ўкладае ў вусны Баўтрамея Лёдніка, вельмі да таго блізкія).

Калі адкінуць гістарычны складнік трылогіі пра Пранціша Вырвіча (хоць гэта і здаецца немагчымым), мы атрымаем пералік недахопаў у характары беларусаў, шэраг трагікамічных сітуацый, у якіх тыя рысы выяўляюцца, іранічную ўсмешку аўтара, якая лунае над лесам метафар. Калі не браць у разлік галоўнае супрацьстаянне ў раманах — Лёдніка-розума і Вырвіча-пачуцця, — мы ўбачым, як персанажам трэцяшарагавым, часта безыменным, якія прадстаўляюць беларусаў (якія яны былі, ёсць і, відаць, будуць), проціпастаўляюцца галоўныя героі — Саламея Рэніч, Баўтрамей Лёднік, Пранціш Вырвіч і інш., — якія ўвасабляюць беларусаў-мару. І яны не бездакорныя, так, але калі б былі такімі, то нашто ім увогуле існаваць?

Лёднік — гэта розум, «рухавік прагрэсу», няспынны шукальнік, захавальнік каштоўных ведаў. Пры гэтым ён яшчэ і ваяр — не толькі непераможны, але і гуманны: у трэцяй кнізе ён толькі і робіць, што выбівае ў ворагаў з рук шаблі, стараючыся нікога не параніць. У гэтым іграе пэўную ролю і тое, што Лёднік — доктар і, як заўважыў пан Рысь, найлепшы вораг, бо сам і знявечыць, сам і залечыць. Але падумайце: калі б Лёднік не быў доктарам, хіба стала б на яго сумленні больш смерцяў? Доктарства хутчэй следства, чым прычына міласэрнасці Лёдніка.

Пранціш Вырвіч часта бывае неразважлівы, ён увесь — парыў, страсць і маладосць. Нягледзячы на памылкі, якія робіць Вырвіч, ён заўжды застаецца станоўчым персанажам, нават калі несправядліва абыходзіцца з нечакана набытым служкам у першай кнізе. Мы не вінавацім яго, бо ўсе свае памылкі малады шляхціц робіць шчыра, ад усяго сэрца.

Што да Саламеі Рэніч, — гэта не проста ідэальная беларуска, але ідэальная жанчына: надзвычайная знешняя прыгажосць спалучаецца ў ёй з непахісным «маральным здароўем». Яна






*Малюнкі Алесі Ісы*

*Герой трылогіі Пранціш Вырвіч.*

ўвасабляе ўсё жаночае, яна беларуская Венера: цудоўная гаспадыня і клапатлівая маці, разумная і пры гэтым не свавольная, працяг мужа і значная яго частка, лекарка і верны сябар, які дарые ўсё (літаральна ўсё). Цікава, што Ганулька Макавецкая, былая служка Паланэі Багінскай, у трэцяй кнізе выходзіць у першыя шэрагі герояў, паўтараючы вобраз Саламеі. Не хапае ёй толькі смеласці, адчайнасці жанчыны-ахвяры, але з часам, патрапіўшы ў пару пераплётаў услед за Вырвічам, яна магла б «вырасці» да Саламеі. Пранціш несправядліва лічыць яе рахманай авечкай, якая чытачу можа нагадаць жонку, апісаную Львом Талстым: замест таго, каб зварыць ацаляльны булён, яна носіць да ложка хворага кветкі і плача. У абарону Ганны мусім заўважыць, што Саламея — прафесійны лекар, што змушае да пэўнай цвёрдасці, у той час як Ганна — усяго толькі дзяўчына, недаацэненая як героямі, так і самой Л. Рублеўскай, хоць гэта і можа прагучаць дзіўна.

Згодна з законамі жанру, некаторыя рысы персанажаў развіваюцца да крайнасці: Лёднік высакародны да камічнага, Вырвіч нязменна рамантычны, Саламея ў апантанасці мужам забываецца на ўласную годнасць, Гетман — машына-забойца, Кацярына II — маска ўлады і г. д. Згодна з законамі жанру развіваюцца і падзеі — не проста імкліва, а вокамгненна.

«Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча» вылучаюцца сярод іншых кніг серыі пэўнай «мяккасцю». Тут вельмі мала ахвяр, шмат кулінарных адступленняў і фінал, які толькі падкрэслівае гэтую «жаноцкасць». Літасць да герояў і заўзятае адмаўленне Лёднікам цёмных навук падкрэсліваюць, што аўтар — шчыры вернік. У паводзінах герояў, шанаванні святыняў бачыцца не жаданне павучаць чытача, але патрэба выказаць павагу да боскага. Калі вы, пачуўшы пра пошукі рэліквій у трылогіі, чакаеце беларускага «Баўдаліна», — то дарма чакаеце. Так, ніводная рэліквія не прыносіць героям шчасця, але пры гэтым усе выказваюць павагу да святыняў, няважна: свае яны ці чужыя.

Не раз паўставала пытанне, хто ж галоўны герой трылогіі: Пранціш Вырвіч ці Баўтрамей Лёднік? Так, трылогія (пакуль што трылогія, трэба заўважыць) названая ў гонар першага. Падзеі ўспрымаюцца яго вачыма. За ростам Пранціша як асобы назіраем увесь час: як слушна заўважыла чытачка, у першай частцы Пранціш хапаецца за шаблю, у другой — хапаецца і хавае назад, а ў трэцяй — пачынае думаць. Здаецца, галоўны герой ён.

І ўсё адно Лёднік адчувальна пацясняе блакітнавокага юнака — як у кнізе, так і ў чытацкіх сэрцах. Полацкі Фауст упэўнена крочыць з кнігі ў кнігу, не баючыся, што яму не хопіць чытацкай увагі. Нават больш: пісьменніца сумленна засведчыла, што ўвесь час старалася, каб Лёднік не перацягнуў коўдру на сябе, але поспех гэтых захадаў, як бачым, сумніўны.

Спрачацца можна бясконца. Але сэнсу гэта не мае, бо галоўны герой — Беларусь. Яна нязменна прысутнічае ў кожнай кнізе — і зусім не як фон для авантураў. Пра яе гавораць персанажы, пра яе думае аўтар. Без яе кнігі ўявіць нельга. Зрэшты, без яе кніг увогуле не было б. Так пацвярджаецца выказванне Ірыны Шаўляковай: пра што б ні пісаў беларускі пісьменнік, усё адно атрымаецца — пра Беларусь.

*«Ад любой падзеі ў творах пісьменнікаў можна перакінуць масток у сучаснасць. Любую фразу, у якой робіцца падсумаванне падзей ці ацэньваюцца рысы герояў (нацыянальныя рысы), можна ўжыць адносна дня, у якім твор чытаецца. Чытач ідзе ўздоўж гістарычнай ракі, натрапляе на адзін з такіх масткоў і пераходзіць на іншы бераг, і гэта вельмі прыемна: шпацыр па-над вірам, у якім патанула безліч ахвяр, заўжды казыча ўяўленне і натхняе на маленькія подзвігі.*

Нават Вырвіч, якога, здаецца, нічога акрам уласных страсцей не хвалюе, прысвячае сваёй краіне вершы. Так, шляхціц герба Гіпацэнтаўр Франтасій Вырвіч пачаў пісаць вершы. З аднаго боку, гэта падаецца лагічным: юнак не выяўляў жадання займацца навукай, расчараваўся ў вайсковай службе, нікога па-сапраўднаму не кахаў. Нічога, акром паэзіі, яму не засталося. Але разам з тым прыпісаныя Пранцішу вершы пакідаюць сумненні. Калі вы чытаеце «Доктара Жывага», верыце, што вершы напісаў Юрый. Калі вы чытаеце «Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча», паверыць, што вытанчаная, глыбокая паэзія належыць юнаку, які толькі задумаўся над мэтай свайго існавання, цяжкавата.

Шмат у чым раманы трымаліся на канфлікце паміж Лёднікам і Вырвічам. Але з часам, узаемна падпадаючы пад уплыў, яны пачалі збліжацца. Усё больш яўна праглядаецца: Пранціш ідзе шляхам Лёдніка, шляхам высакароднага служэння Айчыне. Узнікае пытанне: што далей? Звычайнай барацьбы з ворагам будзе мала, патрэбны канфлікт іншага ўзроўню, не толькі знешні, але і ўнутраны.

Тут дарэчы прыгадаць доктара, даўняга знаёмца Лёдніка, якога ў другой кнізе героі сустрэлі ў зачумленым польскім горадзе. Доктар, які некалі быў апантаны навукай і марыў пра вялікае, займеў цяпер тыповую сям'ю, добры стол і цёплы ложак, — і болей яму не трэба. Тым разам Лёднік не саступіў у канфлікт з калегам. Але цяпер, калі паўстала такая патрэба, з'явілася і магчымасць вярнуцца да старога-добрага «філісцеры vs энтузіясты». У любым выпадку, канфлікт мусіць заставацца ідэйным, бо калі змагацца будуць толькі «добрыя» і «злыя», чытач, які бачыў у трылогіі больш за авантурны раман, расчаруецца.

Трэцяя кніга выйшла, але трылогія відавочна не завершаная. Цяпер складана сказаць: чакаць нам толькі адну кнігу ці серыя будзе працягвацца, пакуль Л. Рублеўская не стоміцца ад сваіх персанажаў. Узнікаюць пытанні: да якой рэліквіі звярнуцца? куды скіраваць герояў? у якіх гістарычных падзеях будуць удзельнічаць доктар і паэт? і ці не стане замінаць Лёдніку яго ўзрост (заўважым, што доктар даўно не малады), а Вырвічу — яго паэзія? Адказаў пакуль няма, але тым цікавей чакаць наступную кнігу.

**Наста ГРЫШЧУК**

Ларыса РАКОЎСКАЯ,
*галоўны рэдактар часопіса «Алеся»:*

# «Беларускі — класічныя ўсходнія жонкі»




**Легендарнаму выданню для беларускіх красунь споўнілася 90 гадоў. Узрост часопісу толькі на карысць. У момант свайго стварэння выданне мусіла аб'ядноўваць, далучаць да працы і адукоўваць грамадзянак Савецкай краіны. З першых дзён у часопісе адбіваліся галоўныя палітычныя падзеі — калектывізацыя, стаханаўскі рух, ударныя пяцігодкі, перабудова. Але ўсё гэта — мінулае. Якая ж місія ў выдання сёння? Чым плануе зацікавіць чытачак новая «Алеся»? Як беларускаму брэнду не згубіцца сярод «глянцу»? Пра ўсё, у тым ліку журналісцкую жаноцкасць і ўсходні характар беларусак, — у размове з намеснікам дырэктара «Выдавецкага дома «Звязда» — галоўным рэдактарам «Алесі» Ларысай Ракоўскай.**



Зусім нядаўна, два месяцы таму, яна ўзначаліла часопіс, які ўвайшоў у склад «Выдавецкага дома «Звязда» і рыхтуецца да кардынальных змен. Зараз у «Алесі» пераходны перыяд. У рэдакцыі ідзе актыўнае фарміраванне новага творчага калектыву. Між іншым раніца ў галоўнага рэдактара звычайная: спевы будзільніка, духмяная гарбата, прагляд пошты, рапсодыя грамадскага транспарту. Самае цікавае і складанае — на працы.

**— У вас, напэўна, ёсць намер нешта памяняць у выданні часопіса, удасканаліць? Якіх змен чакаць чытачам?**

— Фармат часопіса вымагае шматслаёвасці: россыпу сюжэтаў, арыгінальных і яркіх. Таму пераасэнсавання патрабуе і змест, і знешні выгляд «Алесі». Мне б не хацелася змен дзеля змен. Я не люблю нешта ламаць. Трэба знайсці кампраміс паміж захаваннем лепшых традыцый і выкарыстаннем сучасных тэндэнцый. Па-першае, у «Алесі» з'явяцца новыя рубрыкі. Наступны год у Беларусі абвешчаны годам моладзі. Мы настроены на тое, каб пашыраць аўдыторыю і прыцягваць чытачак маладога ўзросту. Што ім цікава? Канечне, чытаць пра саміх сябе — сучасніц. Сярод новых рубрык, якія хутчэй за ўсё знойдуць месца ў часопісе, — «Алеся за рулём», закліканая дапамагаць жанчынам спасцігаць «філасофію» аўтамабіля і спраўляцца з нервовым дарожным рухам. «Мужчына мары», дзе можна будзе пабачыць інтэрв'ю з абаяльнымі і мужнымі джэнтльменамі. «Алеся» прапануе чытачкам і віртуальныя экскурсіі па музеях Беларусі і свету ў рубрыцы «Гісторыя адной карціны». На старонках выдання плануецца вырашаць юрыдычныя пытанні і расказваць не толькі пра беларусак, а і пра жанчын замежжа: напрыклад, жонак паслоў, праз асобы якіх раскрываецца і жыццё ў іншых краінах. Традыцыйныя рубрыкі нікуды не падзенуцца, хіба толькі назвы зменяць. Як і раней, у «Алесі» вы знойдзеце парады гаспадыням, цікавыя псіхалагічныя матэрыялы, інфармацыю пра сад і агарод, модныя рэпартажы, гістарычныя замалёўкі, сакрэты прыгажосці і здароўя. «Алеся» — часопіс, у якім знойдзе сябе кожная жанчына. І гэта тэндэнцыя захаваецца.

**— Навагодні нумар часопіса здзівіць чытачак?**

— Пакуль што ён будзе поўнасцю традыцыйным, але вельмі карысным. Навагодні фармат вымагае друкаваць тое, што ўсе хочуць пабачыць: кулінарныя парады, вясёлыя гісторыі ды іншыя святочныя цікавосткі.

**— Гераіня «Алесі» — як Вы яе бачыце? Няўжо гэта бізнеслэдзі?**

— Быць добрай дачкой, клапатлівай маці, пяшчотнай жонкай і адначасова рэалізоўвацца як творчая асоба — абсалютна рэальна! Бачу вакол сябе шмат такіх жанчын. Дарэчы, яны і становяцца гераінямі «Алесі», бо прыйшлі ў свет, каб нешта стварыць. Няважна, працуе жанчына ў калгасе, на заводзе ці ўзначальвае офіс альбо спявае на сцэне. Цікавыя людзі не заўсёды навідавоку, але яны побач з намі.

**— Якія ж, на вашую думку, увогуле беларускія жанчыны? Вось іспанкі, напрыклад, тэмпераментныя і гарачыя, а немкі славяцца халоднай, але яркай знешнасцю...**

— Беларускі — класічныя ўсходнія жонкі. Вельмі мудрыя, спакойныя, мяккія, вытанчаныя. Яны ніколі не пярэчаць свайму мужу, але на самай справе скіроўваюць яго. Ствараюць хатні тыл. Я не вельмі люблю стэрэатыпы, але, калі гляджу на беларускіх жанчын, заўсёды радуюся: колькі прыхожых твараў! Прычым не маляваных, а ўнутрана абаяльных.

*«Місія сучаснага часопіса, як і па-ранейшаму, — кансалідаваць беларусак, даваць ім прастору для вырашэння праблем, абмяркоўвання жыццёвых калізій ці, наадварот, планаў адпачынку і творчых спраў. Тым больш што сучасныя беларускі працуюць шмат, вучацца ў некалькіх ВНУ, пасяваюць выхоўваць дзяцей — і наогул могуць даць фору любому мужчыне.*

**— «Алеся» аддае перавагу культурным мерапрыемствам у сферы літаратуры, мастацтва, музыкі? Якая ўвогуле місія ў сучаснага выдання?**

— Неабавязкова, але заўсёды грамадскія падзеі адлюстроўваюцца менавіта праз жаноцкае ўспрыманне. Місія сучаснага часопіса, як і па-ранейшаму, — кансалідаваць беларусак, даваць ім прастору для вырашэння праблем, абмяркоўвання жыццёвых калізій ці, наадварот, планаў адпачынку і творчых спраў. Тым больш што сучасныя беларускі працуюць шмат, вучацца ў некалькіх ВНУ, паспяваюць выхоўваць дзяцей — і наогул могуць даць фору любому мужчыне. Я лічу, што жаноцкія лёсы ў «Алесі» можна паказваць не толькі праз інтэрв'ю — гэты фармат, як раней, не павінен паўтарацца з нумара у нумар. Нарысы і рэпартажы, напрыклад, таксама маюць права на жыццё.

**— Аўтарамі «Работніцы і сялянкі» ў свой час былі Якуб Колас, Янка Купала, Іван Шамякін... У цяперашняй «Алесі»** пад рубрыкай «Творчасць» публікуюцца вершы і проза. Што і як трэба напісаць, каб патрапіць на вашыя старонкі?

— Лічу, што ў часопісе павінна быць больш гісторыі, а вось наконт паэзіі — спрэчна: ці патрэбна яна ў неспецыялізаваным выданні. Кароткія апавяданні часопіснага фармату, наадварот, будуць толькі вітацца — сур'ёзныя ці больш рамантычныя, жаноцкія. Пакуль што імкнуся зразумець: хто ж такая наша чытачка? Таму мы будзем чаргаваць высокамастацкія формы з лёгкімі і забаўляльнымі, рабіць высновы, што аўдыторыі больш падабаецца. Ясна адно: перавага будзе за беларускамоўнымі тэкстамі.

**— Як Вы ставіцеся да сайта часопіса? Ці не пагражае знікненне папяровай версіі?**

— Часопіс, які ляжыць на паліцы ў краме, і той, што «вісіць» у інтэрнэце, — зусім розныя рэчы. Мы выходзім раз на месяц, таму ў сеціве, вядома ж, доўгі час не павінна знаходзіцца адно і тое ж. Сайт — гэта хуткасць рэагавання, там рэдакцыя размяшчае аператыўныя рэчы, тое, што ў часопісе нават не з'явіцца: навіны, афішы, маленькія парады. Папяровае выданне, наадварот, жывое доўга, яго можна пагартаць, адкласці, перачытаць зноў, таму ў ім больш разгорнутыя артыкулы.




**— Уяўляеце «Алесю» гадоў праз дзесяць?**

— Мару аб тым, каб «Алеся» стала грунтоўным тоўстым часопісам на добрай глянцавай паперы з прыгожымі фотаздымкамі — накшталт маскоўскага «Каравана гісторый», але з нацыянальнымі адметнасцямі. Для гэтага патрэбны час і журналісцкія рукі.

**— Ларыса Паўлаўна, навошта Вам журналістыка, такая нервовая праца?**

— Проста не бачу сябе ў іншай сферы. Бывае цяжка на дзвюх пасадах, але не скарджуся. З дзяцінства марыла пра журналістыку. Уяўляла сябе сур'ёзнай дамай за вялікім драўляным сталом, дзе б велічна стаялі кава і пісьмовая машынка. Ведаеце, журналістыка — адна з рэдкіх прафесій, у якой жаночыя недахопы становяцца перавагай! Гэта праца, у якой добра шмат балбатаць і быць вельмі цікаўнай, за што я яе і люблю (*усміхаецца*). Увогуле, на дрэнны настрой і нервы часу няма, а калі і з'яўляюцца павевы дэпрэсіі, рэцэпт адзіны: пераключэнне. Веру, што ўсё горшае мінае. Калі «нахлынула» — можна прайсціся па крамах, напрыклад. Чароўную сілу шопінгу ніхто не адмяняў.

**— Якой Вы бачыце сябе на пасадзе кіраўніка?**

— Мае метады кіравання даволі простыя. Упэўнена, што калі ты быў адказным падначаленым у свой час, то станеш і добрым кіраўніком. Людзей трэба ўмець пачуць — вось што галоўнае. Я стаўлюся да сваіх працоўных абавязкаў шчыра, таму лічу, што ніякіх асаблівых праблем не будзе. Зразумела, у кожнага супрацоўніка ёсць свае інтарэсы, праблемы — з усімі трэба лічыцца, размаўляць і, галоўнае, дамаўляцца. Пра самадысцыпліну таксама не забываюся — дрэнны настрой ці не, ёсць імпэт альбо знік, трэба працаваць самой і даваць пэўныя ўстаноўкі людзям.

**— Ці ёсць у Вас уласныя рэцэпты прыгажосці?**

— Захоўваць прыгажосць і ўнутраную раўнавагу лепш за ўсё дапамагае сон. Кожны дзень я трымаюся рэжыму: кладуся спаць у дзесяць гадзін. А ўвогуле згодная з Кока Шанэль у тым, што жанчына пасля сарака гадоў носіць той твар, які заслужыла. Таму чагосьці асабліва ўжо няма сэнсу рабіць (*усміхаецца*).

**— Вы шчаслівая жанчына?**

— Безумоўна, бо ўсё да мяне прыходзіць тады, калі гэта сапраўды неабходна. Я магла стаць кіраўніком шмат гадоў таму, але на той час не адчувала ў гэтым патрэбы. У кожным узросце свае радасці. У дваццаць пяць вольныя хвіліны былі патрэбныя больш за паветра. Зараз праца вымагае шмат часу, але гэта ўжо натуральна! Стараюся планаваць дзень так, каб хапала на ўсё, бо, як бы моцна я не знясілілася ў рэдакцыі, дадому павінна прыйсці ў добрым настроі. Ніколі не выказваю ў сям'і раздражнення на працоўныя праблемы. Яны ж ад гэтага не вырашацца! Ды і адмоўная энергія, якую ліў на кагосьці, нікуды не падзенецца. «Лунае» ў атмасферы, перасккоквае з аднаго на другога, пакуль не вернецца да цябе. Лепш пасядзець з роднымі за смачнай вячэрай, тады і гармонія будзе!

**Гутарыла Марыя ВОЙЦІК**

*Унікальны праект*

# Цаглінкі літпрацэсу ХХ ст.



Пісьменнік Генрых Далідовіч і сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч знаёмяцца з новым выданнем.



Аляксандр Каваленя прадстаўляе новую кнігу «Гісторыя беларускай літаратуры ХХ ст.».

Выдавецкі дом «Беларуская навука» сёлета завяршыў рэалізацыю вельмі значнага праекта. Пабачыла свет трэцяя кніга чацвёртага тома фундаментальнага даследавання «Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя». У цэнтры ўвагі апошняга выдання цыкла — айчынны літпрацэс 2000 — 2010 гадоў. На прэзентацыі кнігі, што прайшла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі, сабраліся выдаўцы, аўтары, сябры рэдакцыйнай калегіі, а таксама героі даследавання — пісьменнікі, чыя творчасць аналізуецца ў гэтым томе.

Удзельнікі прэзентацыі звярталі ўвагу на розныя аспекты новага выдання, у сваіх прамовах акцэнтавалі асабліва значныя рысы праекта, надзвычайны аб'ём і складанасць працы, выключную важнасць грунтоўнага прадстаўлення творчасці беларускіх аўтараў, а таксама неабходнасць знаёмства з новай кнігай перадусім школьных настаўнікаў і ўніверсітэцкіх выкладчыкаў літаратуры. Так, дырэктар ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук Аляксандр Груша ў прывітальным слове падкрэсліў:

— Сапраўдная ацэнка гэтай надзвычай вялікай працы яшчэ не дадзеная. Першыя тамы праекта пабачылі свет ужо даўно — каля пятнаццаці гадоў таму, але каб асэнсаваць значэнне выдання, патрэбны яшчэ больш час. Варта памятаць пра значнасць перыяду, што разглядаецца ў серыі кніг, зважаць на імёны сапраўды вялікіх аўтараў, якія актыўна стваралі нашу літаратуру ў гэты час, а таксама імёны знаных даследчыкаў, якія прысвяцілі сваю дзейнасць вывучэнню іх спадчыны.

Знакавай падзеяй у жыцці Акадэміі навук краіны гэтую кнігу назваў акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр Каваленя. Аляксандр Аляксандравіч зазначыў:

— Хоць мы і кажам, што перад намі — чатырохтомнік, але, падаецца, што гэта шэсць надзвычай аб'ёмных, значных і ў нейкай ступені самастойных кніг, якія акцэнтуюць увагу на літаратуры ХХ ст. Спадзяюся, што даследаванне сучаснай беларускай літаратуры яшчэ не скончылася. Сёння ў нас многа маладых актыўных пісьменнікаў, якія шмат працуюць, іх творчасць таксама варта вывучаць, аналізаваць, уводзіць у шырокі навуковы ўжытак.

Калі завяршаецца важная праца, заўсёды хочацца вярнуцца да вытокаў, згадаць, як усё пачыналася. Так, задума стварыць грунтоўную гісторыю беларускай літаратуры ХХ ст. узнікла ў тагачасным акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы ў вельмі няпросты час — у пачатку 1990-х гадоў. Падрыхтоўкай першых кніг, стварэннем канцэпцыі і канструкцыі ўсёй серыі апекаваўся дырэктар інстытута акадэмік Віктар Каваленка. Па ўспамінах кандыдата філалагічных навук, намесніка дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Сяргея Гараніна, Віктар Антонавіч вельмі шмат сіл уклаў у гэты праект, разглядаў персаналіі, рэдагаваў, нешта дапаўняў, нават пакінуў пасаду дырэктара і ўвесь свой час прысвяціў працы над даследаваннем. Шмат увагі надаваў гэтаму грунтоўнаму выданню і акадэмік Іван Навуменка: для першых тамоў ён напісаў некалькі раздзелаў. «Але варта памятаць, што гісторыя ніколі не завяршаецца, як летапіс, які ніколі не можа скончыцца, — падкрэсліў Сяргей Лявонцьевіч. — Не толькі таму, што па-за межамі гэтага даследавання засталіся імёны, якія маглі б трапіць у кнігу, але і таму, што літаратурны працэс няспынны: ускладняюцца, адточваюцца методыкі даследавання, з'яўляюцца асобныя манаграфіі».

У якасці навуковага рэдактара апошняй кнігі «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ ст.» выступіў доктар філалагічных навук Сцяпан Лаўшук. Сцяпан Сцяпанавіч распавёў, што ў працэсе працы над фундаментальным шматтомнікам змяняліся кіраўнікі, падыходы. Першы том праекта пабачыў свет у 1999 годзе. Дзяржаўнага фінансавання хапіла таксама на падрыхтоўку і выпуск наступнага тома, але потым праца па напісанні гэтага даследавання ішла паралельна з асноўнымі заданнямі навукоўцаў — грошы на гісторыю літаратуры дзяржавай ужо практычна не выдзяляліся. У ліку адметнасцей выдання Сцяпан Лаўшук назваў і асвятленне тут беларускай літаратуры замежжа. «У цэлым жа можна сцвярджаць, што ўсе разам, талакой мы стварылі пантэон беларускай літаратуры ХХ ст., прадставілі імёны творцаў у абрамленні аглядных артыкулаў, дзе скрупулёзна даследавалі адметнасці айчыннага літпрацэсу ХХ ст.», — адзначыў навуковец.

Па меркаванні ўдзельнікаў прэзентацыі, выхад грунтоўнага даследавання гісторыі беларускай літаратуры ХХ ст. стане стымулам для студэнтаў, маладых навукоўцаў звярнуць увагу менавіта на творчасць нашых сучаснікаў: ёсць база, на якой можна ствараць новыя працы.

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**

*Прэзентацыя*

# Незабытыя героі

100-годдзе пачатку Першай сусветнай, якое адзначаецца ў гэтым годзе, дало штуршок для выдання новых кніг, правядзення спецыяльных даследаванняў па гісторыі той Вялікай вайны. У Выдавецкім доме «Звязда» сёлета пабачыла свет дзве кнігі на гэтую тэму: «Апошні прытулак салдата», дзе прыведзены звесткі пра пахаванні салдат Першай сусветнай на тэрыторыі нашай краіны, і даследаванне Вячаслава Бандарэнкі «Палкаводцы і военачальнікі Першай сусветнай вайны — ураджэнцы Беларусі». Прэзентацыя работы В. Бандарэнкі прайшла 4 снежня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Дата для прадстаўлення кнігі выбраная невыпадкова. Менавіта 4 снежня 1918 года спыніліся ваенныя дзеянні на ўсіх франтах Першай сусветнай: ад Балтыкі да Чорнага мора. Вайна скончылася, праз некаторы час было падпісана перамір'е. Значна, што праз стагоддзе падзеі амаль забытай вайны вывучаюцца і пераасэнсоўваюцца. Па словах першага намесніка дырэктара НББ Алены Далгаполавай, фонды галоўнай кніжніцы краіны за досыць кароткі прамежак часу папоўніліся больш як двума дзясяткамі новых выданняў, прысвечаных тэме Першай сусветнай. З гэтай нагоды ганаровы госць прэзентацыі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец зазначыў:

— Нашы пісьменнікі пачынаюць даведвацца і па-мастацку асэнсоўваць многа новага, пра што раней не пісалі і нават не задумваліся. Мы шукаем выхадцаў з Беларусі, якімі можна сапраўды ганарыцца: выдатных военачальнікаў, навукоўцаў, творцаў, даследчыкаў. А В. Бандарэнка ўзяўся за вельмі складаную тэму і прысвяціў сваю працу вывучэнню няпростых вайсковых лёсаў нашых землякоў.

Аўтар даследавання «Палкаводцы і военачальнікі Першай сусветнай вайны — ураджэнцы Беларусі» В. Бандарэнка распавёў:

— Кніга, пра якую сёння ідзе гаворка, складаецца з 25 нарысаў, дзе распавядаецца пра лёсы нашых землякоў — военачальнікаў і палкаводцаў, якія ў гады Першай сусветнай узначальвалі франты, арміі, карпусы. Тэма гэтая амаль не даследаваная, не пісалі на яе кніг, няма навуковых работ. Да прыкладу, летась выйшаў набор плакатаў «Военачальнікі і палкаводцы зямлі беларускай». Пабачыў яго ў кнігарні і напачатку вельмі ўзрадаваўся, бо чакаў знайсці ў ім нямала імёнаў тых, хто ваяваў у гады Першай сусветнай. Але казалася, што ў ліку амаль трох дзясяткаў персаналій — толькі адзін военачальнік таго часу. Задаўся пытаннем: няўжо стагоддзе таму наша зямля была настолькі бедная на ваенныя таленты? Вырашыў гэтую тэму даследаваць больш падрабязна. І неяк сама па сабе склалася кніга. У мяне часта пытаюцца: няўжо беларус мог зрабіць паспяховую кар'еру ў царскай арміі? Насамрэч, ніякіх асаблівых праблем тут не было.



Вячаслаў Бандарэнка.

Адметна, што ў сваёй кнізе В. Бандарэнка распавядае пра лёсы вайскоўцаў, якія пасля рэвалюцыі служылі ў абедзвюх арміях: падтрымлівалі цара ў Белай і змагаліся на баку бальшавікоў у Чырвонай. Часам гэты ідэйны падзел праходзіў па беларускіх сем'ях, раздзяляючы братоў-вайскоўцаў. Даследчык зазначыў: «Час і грамадзянская вайна, і рэвалюцыя нараджалі сапраўдныя сямейныя драмы. Бо нехта пасля рэвалюцыі служыў у царскай арміі, нехта пераходзіў на бок бальшавікоў. У прыватнасці, сям'я Махровых з Барысава. Сыны простага ляснічага Пётр і Мікалай сталі генераламі. Старэйшы атрымаў званне генерала ў 1917 г., яшчэ ў царскім войску, а затым узначальваў штаб Белай арміі. Яго малодшы брат Мікалай камандаваў дывізіяй у Чырвонай арміі. На жаль, пасля рэвалюцыі яны больш не сустракаліся».

Складаная праца В. Бандарэнкі не засталася без увагі. Так, падчас прэзентацыі ён быў узнагароджаны ордэнам «Кадэцкая слава». Сам жа аўтар выказаў прапанову навукоўцам задумацца пра напісанне маштабнага даследавання — і разглядзець усю вайсковую гісторыю Беларусі.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

# Па старонках Вялікай вайны




На 2014 год прыпадае адразу некалькі юбілейных дат у вайсковай гісторыі нашай Радзімы: 500-годдзе перамогі ў Аршанскай бітве, 150-годдзе падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, 70-годдзе вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нацысцкай акупацыі. Ёсць сярод гэтых вызначальных дат яшчэ адна — стагадовы юбілей пачатку Першай сусветнай вайны.

Першая сусветная ўвайшла ў памяць большасці еўрапейскіх народаў як Вялікая вайна. Доўжылася яна чатыры гады і чатыры месяцы. Сышліся ў ёй 38 краін. Вайна забрала жыцці каля дзесяці мільёнаў чалавек, а яшчэ дваццаць мільёнаў пакінула знявечанымі.

Вялікая вайна прывяла да радыкальных змен на палітычнай карце Еўропы: спыніл існаванне чатыры імперыі — Расійская, Германская, Аўстра-Венгерская і Асманская, — а на іх месцы ўзнікла мноства новых нацыянальных дзяржаў. Упершыню сталі выкарыстоўвацца танкі, самалёты, атрутныя газы. Свет стаў іншым.

Не абмінула Першая сусветная і тэрыторыю Беларусі. Летам 1915 года, пасля адступлення войскаў рускага паўднёва-заходняга фронту на тэрыторыі Украіны, войскі паўночна-заходняга фронту вымушаны былі пачаць адступленне з тэрыторыі Польшчы. На беларускіх землях баявыя дзеянні пачаліся 12 жніўня, калі нямецкія і аўстра-венгерскія войскі ажыццявілі спробу захапіць Брэсцкую крэпасць. Пасля жорсткіх баёў, у ноч з 12 на 13 жніўня, расійскае камандаванне прыняло рашэнне пакінуць крэпасць. Яе ўмацаванні былі ўзарваныя, а сам Брэст разбураны на 80%.

У выніку летняга наступлення на ўсходнім фронце нямецкія войскі занялі значную частку тэрыторыі Беларусі. У кастрычніку фронт стабілізаваўся па лініі Дзвінск (сённяя латвійскі Даўгаўпілс) — Паставы — Смаргонь — Баранавічы — Пінск. Адступальныя рускія войскі выкарыстоўвалі тактыку «выпаленай зямлі». Так, у ліпені 1915 года гродзенскі губернатар выдаў загад, у адпаведнасці з якім насельніцтву давалася магчымасць сабраць і абмалаціць пасевы з наступнай рэквізіцыяй ураджаю. Пры немагчымасці ўборкі пасевы падлягалі знішчэнню. Аднак у поўнай меры гэтае распараджэнне выканана не было, бо нямецкія войскі рухаліся надта хутка.

Нямецкае наступленне 1915 года прывяло да масавага бежанства з заходніх рэгіёнаў Беларусі ва ўсходнія, хаця першыя бежанцы з'явіліся ў заходніх губернях Расійскай імперыі ўжо ўвосень 1914 года. Летам 1915 года бежанства стала масавай з'явай. Хтосьці пакідаў дамы добраахвотна, але многія мусілі кідаць увесь свой скарб па загадзе імперскіх уладаў. Рух бежанцаў на ўсход быў неарганізаваным, планаў эвакуацыі не існавала. Толькі ў канцы лета 1915 года былі вызначаны маршруты перасоўвання бежанцаў, а з восені пачалі функцыянаваць размеркавальныя пункты і пункты аказання медыцынскай дапамогі, таксама пачалася сістэматычная рэгістрацыя бежанцаў. Усяго за гады Першай сусветнай колькасць перасяленцаў з Беларусі склала каля паўтара мільёна чалавек.

Адной з самых крывавых бітваў Вялікай вайны на тэрыторыі Беларусі стала Нарачанская аперацыя — наступленне рускіх войскаў у сакавіку 1916 года. Мэта аперацыі — прарыў нямецкай лініі фронту і вызваленне тэрыторыі заходняй Беларусі і Літвы. Аднак рускае наступленне сапсавалі неспрыяльныя прыродныя ўмовы, што было абумоўлена неабходнасцю дапамагчы французскаму войску, якое абаранялa Вердэн. У выніку двухтыднёвых баёў праравць нямецкую лінію абароны так і не атрымалася, а рускія войскі страцілі забітымі, параненымі і абмарожанымі амаль 80 тысяч чалавек.




Першая сусветная вайна стала, верагодна, адной з самых жорсткіх у гісторыі чалавецтва. Вызначылася страшнай і бесчалавечнай зброяй — атрутнымі газамі. Упершыню яны выкарыстоўваліся немцамі супраць французаў каля бельгійскага горада Іпр у красавіку 1915 года. Страты жахлівыя. Аднак найбольш актыўна атрутныя газы прымянілі менавіта на расійска-германскім фронце. 20 ліпеня 1916 года вядома нашумелай «трагедыяй пад Смаргонню», калі ў выніку нямецкай газавай атакі загінула амаль чатыры тысячы рускіх салдат. Усяго на расійска-германскім фронце ад атрутных рэчываў загінула 56 тысяч расійскіх салдат, 419 тысяч атрымалі раненні.

Разам з тым Першая сусветная вайна адыграла, у пэўным сэнсе, вырашальную ролю ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці. У выніку развалу Расійскай імперыі і акупацыі большай часткі тэрыторыі сучаснай Беларусі нямецкімі войскамі дзеячы нацыянальнага беларускага руху зрабілі спробу абвясціць стварэнне першай нацыянальнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі. Нямецкія акупацыйныя ўлады не віталі дзейнасць кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі, але надта і не перашкаджалі яму. У гэтых умовах савецкая ўлада вымушана была пайсці на крок у адказ і абвясціць аб стварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, Вялікая вайна прывяла да ўзнікнення нашай нацыянальнай дзяржавы.

Новыя кнігі, прысвечаныя гісторыі Першай сусветнай, відавочна, будуць цікавымі для беларускага чытача. Адразу тры выданні на гэтую тэму выйшлі ў 2014 годзе ў маскоўскай выдавецкай кампаніі «АСТ» (пры ўдзеле беларускага выдавецтва «Харвест»). Два з іх аб'яднаныя ў серыю «Забытая вайна».

Першая з гэтых кніг — «Первая сусветная. Невядомыя старонкі» (укладальнік В. А. Залатароў) — зборнік рапартаў і дакладаў расійскіх генералаў, якія прысвячаліся баявым дзеянням на расійска-германскім фронце на працягу восені 1914 года і падзеям на тэрыторыі Прыбалтыкі з восені 1914 па вясну 1915 года. З іх можна даведацца, так бы мовіць «з першых вуснаў», пра стратэгічную і тактычную абстаноўку на фронце ў пачатку расійска-германскага супрацьстаяння і пра прычыны ды абставіны першых буйных паражэнняў расійскіх войскаў ва Усходняй Прусіі.

Зразумела, выданне разлічана найперш на людзей, якія добра абазнаныя ў падзеях Першай сусветнай вайны і зацікаўленыя ў больш глыбокім вывучэнні крыніц па яе гісторыі. Зрэшты, можна меркаваць, і аматарам гістарычнай літаратуры кніга можа быць карысная.




Другая кніга — таксама ў серыі «Забытая вайна»: «Пераможцы, якія прайгралі. Рускія генералы» (аўтар А. А. Парошын) — гэта зборнік жыццеапісанняў галоўнакамандуючых расійскімі войскамі на еўрапейскім тэатры ваенных дзеянняў з чэрвеня 1914 года па кастрычнік 1917 года. За гэты час камандаванне расійскімі войскамі ажыццяўляў 21 генерал. У адрозненне ад першай кнігі, праца А. А. Парошына бліжэйшая да аналітычнага даследавання.

Першы раздзел апісвае структуру вайсковага навучання ў Расійскай імперыі, сістэму атэстацыі афіцэраў і надання афіцэрскіх чыноў. Другі раздзел прысвечаны шляху будучых галоўнакамандуючых да афіцэрскай кар'еры. Тут апісваецца іх паходжанне, выхаванне, асаблівасці атрымання вайсковай адукацыі. Трэці — пра вайсковыя кар'еры будучых галоўнакамандуючых, а чацвёрты — пра дзейнасць на гэтых пасадах.

Праца А. А. Парошына можа выклікаць значную цікавасць сярод аматараў расійскай вайсковай гісторыі XIX—XX стагоддзяў.

Трэцяя кніга — «Гісторыя Першай сусветнай вайны» — была напісаная англійскім гісторыкам Бэзілам Лідл Гартам у 1934 годзе — усяго праз 20 гадоў пасля пачатку Вялікай вайны. Выданне створана відавочцам для відавочцаў. Натуральна, у такога даследавання свае асаблівасці, свае ацэначныя катэгорыі. З іншага боку, падобная кніга цікавая сама па сабе як сведчанне эпохі, калі падзеі Першай сусветнай былі яшчэ цалкам рэальнымі для нядаўніх яе ўдзельнікаў.

У «Гісторыі Першай сусветнай вайны» Лідл Гарт падрабязна аналізуе вытокі і прычыны пачатку вайны, сілы і стратэгічныя планы варагуючых бакоў. У асноўным тэксце разглядаюцца пераважна баявыя дзеянні на заходнім і міжземнаморскім франтах, у той час як падзеі на ўсходнім фронце застаюцца практычна па-за ўвагай аўтара. Кніга суправаджаецца шэрагам карт і схем баявых дзеянняў.

Праца Бэзіла Лідл Гарта прыцягвае ўвагу самага шырокага кола чытачоў: не толькі даследчыкаў ваеннай гісторыі, але і аматараў гістарычнай літаратуры.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

# Пад крылом самалёта

Аматары вайсковай гісторыі наўрад ці будуць адмаўляць значэнне авіяцыі ў ходзе баявых дзеянняў. Выкарыстанне самалётаў змяніла твар вайны, новыя машыны далі ўнікальную магчымасць глядзець на поле бітвы зверху, каб не толькі праводзіць паветраныя атакі, але і збіраць звесткі пра тактычныя і стратэгічныя перасоўванні праціўніка.

Гісторыя канструкцыі вайсковых самалётаў, назіранне за тым, як з цягам часу змяняўся іх знешні выгляд, цікавіць шырокае кола чытачоў. Гэта ж так відовішчна! Таму новая энцыклапедыя «Самалёты. Ваенная авіяцыя» з ілюстрацыямі сусветна вядомага мастака Бруна Паціны не застанецца без увагі. Яна не толькі дазволіць пабачыць мадэлі самалётаў, што былі на службе падчас дзвюх сусветных войнаў і больш позніх ваенных канфліктаў у Еўропе і свеце, але і распавядзе пра асноўныя тэндэнцыі канструкцыі і афарбоўкі авіямашын, распаўсюджаныя ў розных краінах.




У кнізе сабрана больш як 400 каляровых ілюстрацый вайсковых самалётаў розных часоў, а кожная выява суправаджаецца досыць падрабязным апісаннем адметнасцей знешняга выгляду і функцыянавання машыны.

Апроч вайсковага прызначэння самалётаў, аўтара кнігі цікавіць і гісторыя іх афарбоўкі. Так, спадар Паціны звяртае ўвагу, што яшчэ з часоў Першай сусветнай вайны авіяцыя выкарыстоўвалася і ў рэкламных мэтах. Да прыкладу, французы надта любілі ўпрыгожваць самалёты геральдычнымі сімваламі, выявамі з народнай культуры і нават рэкламнымі паведамленнямі. Такая ж «мода» распаўсюджвалася і ў Італіі: тут ужываліся самалёты французскай вытворчасці, ярка пафарбаваныя з ужываннем нацыянальных колераў.

**Юзэфа ВОЎК**

# Пра што трэба пытацца

**У сталіцы прайшла прэзентацыя беларускамоўнага перакладу навелы-бестселера Ёнаса Люшэра «Вясна барбараў». Выданне пабачыла свет у выдавецтве «Паперус» пры падтрымцы Швейцарскай Мастацкай Рады «Пра Гельвецыя» і Інстытута імя Гётэ ў Мінску. Па-беларуску кнігу перастварыла Ірына Герасімовіч.**


*Пісьменнік Ёнас Люшэр.*

Пісьменнік Ёнас Люшэр ужо досыць працяглы час жыве ў нямецкім Мюнхене. Нарадзіўся ў Цюрыху, вырас у Берне, потым пераехаў у Германію. Атрымаў адукацыю настаўніка пачатковых класаў, але па спецыяльнасці працаваў нядоўга. Быў драматургам у галіне кініндустрыі ў Мюнхене і вывучаў філасофію. Цяпер Ёнас працуе над дысертацыяй па філасофіі ў Вышэйшай тэхнічнай школе ў Цюрыху. Яго навела «Вясна барбараў» выйшла накладам больш як 60 тысяч асобнікаў, кніга намінаваная на дзве значныя прэміі Германіі і Швейцарыі.

Адметна, што пераклад навелы на беларускую мову пабачыў свет фактычна адначасова з яе рускамоўным перастварэннем, а сам пісьменнік правёў ажно тры прэзентацыі ў розных гарадах нашай краіны. Так, імпрэзы, прысвечаныя «Вясне барбараў», прайшлі ў Віцебску і Гомелі. Завяршылася гэтае невялічкае турнэ дзвюма вечарынамі ў Мінску.

— У мяне было некалькі ідэй, якія я мусіў рэалізаваць у гэтай кнізе, — распавёў Ёнас Люшэр. — Першая з іх — стварыць класічную навелу па ўсіх законах жанру. А паводле вызначэння навелы, якое даў яшчэ Гётэ, у гэтым творы мусіць быць нейкі зусім нечаканы, пераломны момант. Другая ідэя — напісаць кнігу, галоўным героем якой стаў бы чалавек, які не дзейнічае — зусім свядома вызначыўся на карысць нядзеяння. Гэта пэўнага кшталту эксперымент. Я паставіў перад сабой пытанне: ці можна ўвогуле напісаць кніжку, якая, з аднаго боку, мела б драматычны сюжэт, а з іншага — галоўнага героя, які не дзейнічае. У кнізе ёсць яшчэ адзін вельмі важны момант — тэма. Я вяду гаворку пра фінансавыя рынкі, эканамічны крызіс, бо ад наступстваў аднаго з іх мы пакутуем і сёння. Падумалася, што тым самым паваротным момантам навелы мусіць стаць крах фінансавай сістэмы, і я для сябе вырашыў, што гэта будзе сістэма брытанскага ўзору.

Па меркаванні перакладчыцы Ірыны Герасімовіч, эксперымент Ёнаса Люшэра можна лічыць удалым. Галоўны герой навелы Прайзінг сапраўды ніколі не дзейнічае, больш за тое, ён шануе сваю «памяркоўнасць». Кніга дае шмат прасторы для чытацкай інтэрпрэтацыі, у ёй нібыта іншае вымярэнне. Можна разважаць не толькі пра тое, што надрукавана чорным па белым — чытацкі полюс таксама вельмі важны.

Пачынаецца і заканчваецца навела фактычна аднолькава. Апавядальнік спрабуе весці гутарку з Прайзінгам, які пасля краху фінансавай сістэмы трапіў у псіхіятрычную клініку, але атрымлівае адзін адказ: «Ты не пра тое пытаешся».

— На прэзентацыях мне часта задаюць пытанне: дык пра што трэба было пытацца? — заўважае Ёнас Люшэр. — Я адказваю, што, нават ведаючы, не расказаў бы. Менавіта дзеля гэтага і пісаў кнігу — каб чытач сам падумаў, вырашыў для сябе і знайшоў у тэксце падказкі. І, дарэчы, я не лічу, што пытанні бываюць няслушныя.

Сюжэт навелы наступны: швейцарскі бізнесмен Прайзінг атрымаў у спадчыну фірму — сямейнае прадпрыемства, якое зрабіла яго вельмі заможным. Заслугі Прайзінга ў камерцыйнай паспяховасці фірмы не было. Да поспеху прывёў адзін з яго супрацоўнікаў — Праданавіч. Ад Прайзінга патрабуецца быць толькі «тварам фірмы». І калі на прадпрыемстве прымаюцца нейкія важныя рашэнні, то на гэты час падначаленыя адпраўляюць Прайзінга ў адпачынак, каб ён не замінаў сваёй прысутнасцю. І вось падчас аднаго такога падарожжа галоўны герой трапляе ў Туніс са сваім бізнес-партнёрам, уладальнікам шыкоўнага гатэля. На некалькі дзён Прайзінг прыязджае на курорт, які знаходзіцца ў аазісе пасярод пустыні. Курортам кіруе дачка бізнес-партнёра, якую завуць Саіда. У гатэлі Прайзінг сустракае іншых паспяховых маладых людзей — прадстаўнікоў брытанскай фінансавай сферы. Яны прыехалі ў Туніс, каб зладзіць тут вяселле. І вось у ноч пасля надзвычай шыкоўнага вясельнага фэсту брытанская фінансавая сістэма церпіць крах. Маладыя людзі прачынаюцца наступным ранкам — рахункі заблакіраваныя, карткі не працуюць, немагчыма заплаціць за пражыванне на курорце. Іх нібыта выкідвае на бераг. І якраз тады наступае вясна барбараў.

— Аазіс стаў той абмежаванай прасторай, куды я змясціў прадстаўнікоў розных сацыяльных колаў, каб паглядзець, як яны будуць пачувацца ў надзвычай складаных абставінах, — распавядае аўтар. — Група вакол Прайзінга — добра адукаваныя прадстаўнікі буржуазіі, распешчаныя жыццём людзі сталага ўзросту. Іх антаганістамі выступаюць маладыя людзі. Гэта яны «круцяць» фінансавае кола, на якім трымаецца сусвет. Амаль кожны з герояў на крах сістэмы, а значыць, і незваротныя змены ў жыцці, рэагуе па-свойму, і кожная фігура выступае ўвасабленнем пэўнай ідэі і ўзору паводзін.

Падаецца, падчас прэзентацыі і аўтар, і перакладчыца распавялі пра навелу шмат і раскрылі амаль усе яе сакрэты. Аднак чытаць кнігу, нават ведаючы сюжэт і адметнасці задумкі аўтара, усё роўна цікава. Пераломны момант адбываецца нечакана, хоць прыкметы таго, што ён мусіць надысці, прасочваюцца ўжо з самага пачатку аповеду. Больш за тое, мова кнігі зусім няпростая.

— Мне ўжо некалькі разоў даводзілася чуць заўвагу, што чытаць кнігу складана. Але ў задачы аўтара не ўваходзіць палегчыць працу чытача. Канечне, прынцыпам як мага больш простага выкладання думак можна кіравацца, калі пішаш кнігу рэцэптаў, але пра гэта не можа быць гаворкі, калі ствараецца сапраўды добрая літаратура. Гумар і іронія — важныя рысы майго расповеду. Смех прысутнічае ў кнізе, але ён не робіць падзеі менш сур'ёзнымі, наадварот — вылучае іх. Пры гэтым я не назваў бы твор перасцярогай грамадству. Гэта надта гучная задача для такой маленькая кнігі. Больш за тое, мне падабаецца ідэя стварэння поліміфічнага грамадства, дзе ёсць месца для многіх гісторый, і ніводная з іх не ўзвышаецца да ўзроўню самай значнай, не становіцца міфам.

Тым не менш у навеле «Вясна барбараў» чытач можа знайсці ключык для разумення законаў функцыянавання свету. Ёнас Люшэр у сваім навуковым даследаванні па філасофіі прытрымліваецца ідэі, што менавіта мастацкая літаратура лепш, чым усялякія камп'ютарныя мадэлі, дапамагае разумець рэчаіснасць.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

# Ляціць ягоны верш да небакраю…

Ужо каторы вечар пасля хатніх спраў бяру ў рукі паэтычны зборнік і наталяюся прыгожай паэзіяй Анатоля Шушко. За акном непагадзь, а вершы нашага земляка цёплыя, мудрыя:

*На зямлю белы снег кладзецца,*
*Абдымаючы,*
*Ападае…*

Лірыка Анатоля Шушко непаўторная, кранальная, прыцягальна-шчымлівая і шчырая. Бо і сам паэт чалавек шчыры і адкрыты. Здаецца, усмешка ніколі не сыходзіць з ягонага твару. Сталая і вытанчаная паэзія аўтара не пакідае чытача абыякавым: яна ўзрушвае, прымушае задумацца над сэнсам жыцця, над тымі адвечнымі каштоўнасцямі, што надаюць чалавеку сілы. Шкада, што пасля выхаду ў 1994 годзе ягонай кніжкі «Выток і прычасце» наступны зборнік выйшаў амаль праз дваццаць гадоў.

Землякі Анатоля, дасціпныя і працавітыя палешукі, — героі вершаў паэта. І ў першую чаргу гэта сваякі, а таксама мілая сэрцу вёска Сташаны, дзе ён гадаваўся і сталеў. У 1971 годзе Анатоль стаў студэнтам беларускага аддзялення філфака БДУ. Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта працаваў настаўнікам у Ласіцкай сярэдняй школе на Піншчыне. Затым былі Гродзеншчына, Міншчына, Гомельшчына. І, нарэшце, Пінск.

Першы верш А. Шушко быў надрукаваны ў газеце «Піянер Беларусі», а потым выйшла цэлая падборка ў «ЛіМе». Паэта-пачаткоўца тады падтрымаў вядомы беларускі крытык Варлен Бечык. Ён пісаў: «Якой важкай і цікавай творчай заяўкай сталі вершы гэтага юнака!» Але таленавіты палешук нячаста выносіў на суд чытачоў свае творы. Праўда, яны друкаваліся ў часопісах «Нёман», «Беларусь», «Полымя», «Маладосць», у калектыўных паэтычных зборніках, у рэспубліканскай і мясцовай прэсе.

Пасля выхаду ў 1994 годзе першай кніжкі «Выток і прычасце», якой А. Шушко заявіў пра сабе як сур'ёзны, сталы паэт, праз пэўны час ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Бясспрэчна, гэта стала падзеяй у культурным жыцці горада і раёна. Радасць паэта-палешука раздзяліў з ім Ніл Гілевіч, падараваўшы Анатолю кнігу «Родныя дзеці» з аўтографам.

Два гады таму, падчас Свята беларускага пісьменства ў Быхаве, Анатоль Шушко стаў лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу «Лепшы твор 2012 года» і быў узнагароджаны дыпломам II ступені ў намінацыі «Паэзія».

Летась пабачыла свет другая кніга паэта з кароткай і ёмкай назвай «Шаны». Шан — так у нашая мясцовасці называюць меру жыта. На першы погляд, назва зборніка крыху дзіўная. Але, як напісаў у




прадмове паэт Віктар Гардзей, «добра бачна, што гэты бліскучы наватвор не так ад слова «шанаваць», як лагічнае пераасэнсаванне назвы вёскі Сташаны». Па сутнасці, кніга «Шаны» — гэта зборнік выбраных твораў паэта. Тут многа вершаў-прысвячэнняў — маці, бацьку, любай жонцы, родным і блізкім, сябрам.

Паэт-словатворца Анатоль Шушко верыць у жыццядайную сілу паэтычнага слова, у яго здольнасць прыадкрываць чалавеку новыя гарызонты.

Разважлівая, удумлівая лірыка кранае не толькі мяне. Відаць, не засталіся раўнадушнымі і сябры журы па прысуджэнні літаратурнай прэміі Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта імя Уладзіміра Калесніка. У галіне паэзіі гэтая прэмія была прысуджаная менавіта Анатолю Іванавічу.

**Марыя ЛЯШУК**

*На паліцы*

# Радок нібы кволы расток

*Алесь Гоцка. Іду на Парнас: вершы. — Гродна: ЮрСаДрук, 2014.*

На Навагрудчыне шмат аматараў мастацкага слова, якія ўдала спалучаюць асноўную працу з літаратурнай творчасцю. Апошнім часам у розных выдавецтвах Беларусі выйшлі зборнікі твораў выкладчыцы музыкі Святланы Абдулаевай, індывідуальнага прадпрымальніка Міхася Зізюка, былога настаўніка Янкі Паддубіцкага. А не так даўно пабачыў свет зборнік паэзіі «Іду на Парнас» навагрудчаніна Алеся Гоцкі, урача-рэўматолага вышэйшай катэгорыі Цэнтральнай раённай бальніцы.

Зборнік «Іду на Парнас» у некаторай ступені падводзіць вынік шматгадовай творчай працы ў паэзіі. Аўтар пільна ўглядаецца ў жыццёвыя праявы, умее іх асэнсаваць і ўвасобіць у радок мастацка-выяўленчымі сродкамі. Тэматыка вершаў разнастайная: ад актуальных праблем экалогіі да светлых пачуццяў да каханай. Радок атрымліваецца змястоўна-выразным, без лішняга пафасу і дэкларатыўнасці. Так, у вершы «Мне на свеце…», якім адкрываецца зборнік, выказваецца мастацка-эстэтычнае творчае крэда аўтара: «Мне на свеце нямногае трэба: / Дажджу кроплю з блакітнага неба, / Ветру пошуму па-над бярозкай, / Паху водару хвоі за вёскай; / Сонца промняў каб бачылі вочы, / Сноп усмешак зычлівых дзявочых…».

Паэзія даўно стала для Алеся Гоцкі патрэбай душы, у вершах ён выказвае запаветныя мары і надзеі, тут знаходзіць стымул для складанай паўсядзённай працы. Шчыра і нязмушана гаворыць ён пра гэта ў вершы «Паэзія»: «У паэзіі я — непрыкметны хадок. / З ёй, як пленнік, жыву, разважаю… / Кожны вобраз і слова, як кволы расток, / Асцярожна нясу ў паэтычны куток —/ Там іх Муза жыццём правярае».

Думаецца, зборнік паэзіі Алеся Гоцкі стане істотным унёскам у твочую скарбонку аматараў мастацкага слова Навагрудчыны.

**Васіль КУЗЬМІЧ**

# Крывое люстэрка тэатра?

**ІІІ Рэспубліканскі конкурс тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія» прайшоў, узнагароды падзелены. Але гэтая заўважная падзея ў культурным жыцці Беларусі пакінула па сабе шмат пытанняў. У камiннай зале Нацыянальнага акадэмiчнага тэатра імя Янкі Купалы адбыўся «круглы стол», на якім рэжысёры, драматургі, акцёры, крытыкі і тэатразнаўцы абмяркавалі вынікі конкурсу, а таксама стан, праблемы і перспектывы сучаснага творчага працэсу.**



Гутарку пра лёс сцэнічнага тэатральнага мастацтва распачаў вядучы «круглага стала» — старшыня Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў», старшыня журы тэатра драмы ІІІ Рэспубліканскага конкурсу тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія» Рычард Смольскі: «Тэатральнае мастацтва патрабуе своечасовага асэнсавання, вырашэння праблем дзеячаў гэтай сферы. Узнікла кола пытанняў, якія неабходна вырашаць: 1) асаблівасці рэпертуарнай палітыкі беларускіх тэатраў на сучасным этапе; 2) мадэль дзяржаўнага рэпертуарнага тэатра: ці магчыма сёння яго мадэрнізацыя? 3) тэатр і глядач: хто каго і як сёння выхоўвае? 4) кадравы патэнцыял сучаснага беларускага сцэнічнага мастацтва: што і як рабіць для выхавання таленавітых творцаў? 5) Прапановы па далейшым удасканальванні тэатральнай прэміі.

«Аб некаторых аспектах дзяржаўнай палітыкі ў сферы тэатральнага мастацтва» выказалася першы намеснік міністра культуры Беларусі Ірына Дрыга: «Пасля распаду СССР колькасць тэатраў у Беларусі не зменшылася. Сёння налічваецца 28 дзяржаўных тэатраў, з якіх 4 — нацыянальныя, 9 — маюць званне заслужаных калектываў. Нашы тэатры не страцілі, а, наадварот, узнялі творчы ўзровень, штогод іх наведваюць 1,5 мільёна гледачоў. Дзейнасць тэатраў рэгламентуецца на дзяржаўным узроўні, ажыццяўляецца фінансавая падтрымка, але рэчаіснасць патрабуе самаакупнасці — прыцягнення спонсараў. Варта спадзявацца, што першая ў гісторыі Нацыянальнай тэатральнай прэміі ўзнагарода «Мецэнат тэатра» паспрыяе гэтаму. Што да Нацыянальнай тэатральнай прэміі — 2014, то для ўдзелу ў конкурсе было пададзена 37 заявак ад 28 тэатраў. Пасля адбору на ацэнку прафесійнага журы прэтэндавалі 21 спектакль, у тым ліку 11 пастановак тэатра драмы, 6 — тэатра лялек і 4 — музычнага тэатра. Лічу, мадэль па падтрымцы дзяржаўнага рэпертуарнага тэатра трэба захаваць, але пры гэтым імкнуцца і развіваць яе. Таму прапануюцца пэўныя змяненні ў правядзенне конкурсу: пакінуць падзел прафесійнага журы па катэгорыях, павялічыць колькасць намінантаў (рэжысёрская праца, мастак-пастаноўшчык і інш.). Па выніках «круглага стала» ўсе прапановы прымуцца да ўвагі».

Пра асноўныя праблемы і здабыткі беларускага тэатра лялек распавяла дацэнт кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў установы адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў», кандыдат мастацтвазнаўства Галіна Алісейчык: «Тэатр лялек сёння перажывае ўздым, можа нават стаць своеасаблівым трэндам беларускай культуры. Існуе камерцыйны поспех пастановак, якія ў Еўропе разглядаюцца як сур'ёзныя з'явы. На Усерасійскім тэатральным фестывалі «Залатая Маска — 2013» два спектаклі, якія трапілі ў лік лепшых, — беларускія. Гэта яшчэ раз падкрэслівае факт, што да айчыннай школы тэатра лялек ставяцца з пашанай. Але, безумоўна, існуюць і пэўныя складанасці. Так, афіша не адпавядае сучаснаму этапу развіцця тэатра лялек. За апошнія гады зроблены моцны штуршок. Цяпер лепшыя тэатры лялек свету працуюць у тым метадзе, эстэтыцы, калі ўсё вырашае першакрыніца, г. зн. любы набор выразных сродкаў, тэатральных прыёмаў; некаторыя спектаклі іграюць без лялек, некаторыя — з лялькамі, маскамі. Фарміруецца тэндэнцыя — шлях па кантамінацыі — узаемапранікненне і ўзаемаператварэнне розных метадаў. Што да Нацыянальнай тэатральнай прэміі — 2014, то яе праграма была цікавай, моцнай і разнастайнай. Але падалося, што ўмовы конкурсу, а асабліва новаўвядзенні, не прынеслі значных змен. Мінулыя разы пры адзінай праграме існаваў панарамны выгляд: мы бачылі, што адбываецца з тэатрамі, дзе ёсць развіццё, дзе — няма. Зараз пачуццё панарамы знікла — пайшло драбненне. Шэсць намінацый па рэжысуры і адна мастаку-пастаноўшчыку — відавочны дысбаланс! Лічу, не варта ўводзіць шмат рэформ. Калі пачынаецца рэфармацыя, атрымліваецца тое ж, толькі ў горшым варыянце».

— На правах вядучага не магу не адрэагаваць. Не ў першы раз чую ад прадстаўнікоў лялечных тэатраў, што яны развіваюцца, паступова ператвараючыся ў разнавіднасць драматычнага тэатра, — запярэчыў Рычард Смольскі. — Лялечны тэатр першапачаткова ўзнік як тэатр для дзяцей, і калі мы не хочам страціць гэтую выхаваўчую функцыю дзіцячага гледача праз ляльку, то не павінны пераўтварацца ў драму.

На думку рэктара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Кацярыны Дулавай, вылучэнне асобных намінацый для тэатраў драмы, музыкі і лялек абсалютна апраўдана. Два оперныя спектаклі прэміі — «Лятучы галандзец» і «Рыгалета» — довед працы шматнацыянальных калектываў. Калі ж казаць пра музычныя тэатры, абавязкова трэба ўзгадваць кампазітараў. І, безумоўна, неабходна ўвесці гендарны падзел для акцёрскіх намінацый: мужчынская і жаночая ролі, ролі другога плана.

Свае вострыя думкі і ўражанні на фоне Нацыянальнай тэатральнай прэміі выказаў і член журы тэатра драмы, тэатральны крытык Вадзім Салееў: «Агульнавядома, што наш конкурс у асноўным драматычны. З 11 намінантаў прэміі 7 належаць нацыянальнай драматургіі, 4 — замежнай, і ніводнага рускага спектакля. Гэта выдатна, але ў той жа час і вельмі дзіўна, бо наш тэатр ганарыцца высокім узроўнем акцёрскага псіхалагічнага майстэрства, што заснаваны на рускай драматургіі. Акрамя таго, трэба праводзіць грунтоўную працу па адборы спектакляў на Нацыянальную тэатральную прэмію. Дасягненнем трэба лічыць узнятае майстэрства рэгіянальных тэатраў. І Брэсцкі, і Гродзенскі тэатры паказалі, няхай і з выдаткамі, але цікавыя канкурэнтназдольныя працы. Ды і Маладзечанскі тэатр не выглядаў аўтсайдарам у такім прэстыжным конкурсе, а гэта не можа не радаваць. Што да Магілёўскага тэатра, то, на мой погляд, ён паказаў самы эстэтычны спектакль — каласальнае дасягненне ў беларускім тэатральным мастацтве.

Пра глабальнае, звязанае з беларускім тэатральным працэсам. Нашы тэатры схіляюцца да дырэктарскага тыпу кіравання. Існуюць прыклады, калі дырэктар самастойна прымае рашэнні, і гэта шкодзіць мастацкаму працэсу. Дырэктар — асобна, мастацкі кіраўнік — асобна! Лічу неабходным аднавіць мастацкія саветы, куды запрашаць не толькі работнікаў тэатра, а і крытыкаў, мастацтвазнаўцаў, чыноўнікаў, прадстаўнікоў тэатральнай публікі і бізнесу. Па магчымасці трэба ствараць і апякунскія саветы, яны павінны наладжваць планамерную працу з гледачом. Абавязкова стварыць фонд падтрымкі тэатральнага мастацтва і асноўныя яго намаганні скіраваць на падтрымку рэгіянальных тэатраў, бо часам апошнія ў адчайным стане».

У межах дыскусіі прапановы па далейшым удасканаленні тэатральнай прэміі выказалі шматлікія тэатразнаўцы. Так, прафесар гісторыі кафедры музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Радаслава Аладава адзначыла кепскае стаўленне да кампазітараў і прапанавала ўвесці намінацыі як ім, так і драматургам. Балявыя кропкі Нацыянальнай тэатральнай прэміі акрэсліла тэатральны крытык, галоўны рэдактар часопіса «Мастацтва» Людміла Грамыка: «Падзеленыя намінацыі патрэбна захаваць, але журы павінна быць агульным, як на фестывалі «Залатая Маска», і адбіраць пастаноўкі жыўцом. Да таго ж забараніць намінаваць адзін спектакль і яго ж узнагароджваць». Істотную заўвагу выказала Алена Мальчэўская, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя»: «Змяніць фармулёўку намінацыі «Лепшы дэбют». Звярнуць увагу на арганізацыю прагляду — журы ацэньвае, не праглядаючы ўсе пастаноўкі!» Па словах дырэктара Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Андрэя Новікава, неабходна арганізоўваць гутаркі гледачоў з трупай пасля спектакляў.

— Навошта існуе Нацыянальная тэатральная прэмія? — эмацыянальна пачаў сваю прамову галоўны рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Мікалай Пінігін. — Адкажу: каб прафесіяналы ацэньвалі прафесіяналаў! Нельга галасаваць сваім за сваіх. Крытыкі на захадзе прагаласавалі і сышлі. У нас жа на таемным галасаванні ідзе абмеркаванне — што гэта такое? Акрамя гэтага, існуе шмат праблем: дзе браць кадры і фінансы? Вы, пэўна, адкажаце: з камерцыйных спектакляў. Тады я не разумею мэты тэатра: ён павінен зарабляць грошы ці адукоўваць людзей?

*Вынік абмеркаванняў.* Слушных пытанняў разглядалася шмат: ратацыя часткі журы, прэмія мастакам па касцюмах, пастаянны штаб, які будзе займацца прэміяй і інш. Некаторыя прапановы слушныя, а некаторыя складаныя для выканання. Як прысуджаць прыз глядацкіх сімпатый? Для гэтага незалежны глядач павінен наведаць усе спектаклі конкурсу!

**Таццяна ШЧЭРБА**

# На вяршыню па клавішах

**Міжнародны конкурс піяністаў «Мінск — 2014» адкрыўся 2 снежня ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. За мінулыя дзесяцігоддзі гэты творчы форум заваяваў шырокую вядомасць і заняў годнае месца ў календары самых чаканых падзей культурнага жыцця краіны.**

Першы конкурс музыкантаў-выканаўцаў прайшоў у 1996-м і называўся «Фартэпіяна. Мінск — 96». З кожным годам конкурс пашырае дыяпазон: гэтым разам у ім бяруць удзел 73 піяністы з Беларусі, Расіі, Украіны, Арменіі, Вялікабрытаніі, Марока, Латвіі, Кітая, Малдовы, Бельгіі і Францыі.

Музычны форум мяняўся разам з краінай і грамадствам. Перамены, аднак, не закранулі галоўнага — нязменна высокага прафесійнага ўзроўню канкурсантаў, адданай публікі і добразычлівай творчай атмасферы, створанай арганізатарамі.

Падчас урачыстага адкрыцця сёлетняга конкурсу піяністаў «Мінск — 2014» на сцэне вялікай залы філармоніі выступіў Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр, а таксама члены журы: прызнаныя музыканты з Беларусі, Арменіі, Латвіі, Літвы і Расіі. Старшыня журы — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Ігар Алоўнікаў.

Конкурс ладзіцца ў два туры: з 3 па 10 снежня піяністы дэманстравалі сваё выканальніцкае майстэрства. Лепшыя выступяць сёння ў фінальным туры. Урачыстае закрыццё конкурсу і канцэрт лаўрэатаў адбудзецца 13 снежня ў вялікай зале Белдзяржфілармоніі. Уладальнікі трэцяга і другога месцаў сыграюць сольна, а пераможца — у суправаджэнні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра.

Міжнародны конкурс піяністаў арганізаваны па рашэнні Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і пры дапамозе Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Загадка рэстарана лёсу

Незвычайнае дзейства адбылося ў вялікай зале сталічнага Дома літаратара. «Там, дзе зоркі кідаюць цені» — так называецца музычна-паэтычная кампазіцыя Тэатра літаратурнага перформансу «Литосфера» на вершы паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Анастасіі Кузьмічовай ды паэтаў Дзяніса Кандрацьева і Дзмітрыя Ермаловіча-Дашчынскага.

У пастаноўку рэжысёра Сяргея Шпілеўскага паводле сцэнарыя Віктара Танюкевіча, цэнтральная дэкарацыя якой — барная стойка (у ролі бармена — Юрый Анціпаў), гожа «ўпісаліся» песні ў сольным выкананні Альберта Скарахода і Нэлі Душчынскай (на музыку Альберта Скарахода і Алены Храбровай адпаведна). Дапоўнілі музычнае афармленне Анастасія Барысёнак (гітара) і Сцяпан Гуляеў (ударныя).

Вершаваная п'еса насычана моцнымі філасофскімі вобразамі: «бясконцае замкнёнае кола», «вуліца слёз», «скрыпічныя ключы ад раю», «рэстаран лёсу»... Ружа ў руках галоўнай гераіні (Ірына Фралова) — сімвал памяці пра страту. А «кантрастам» для радка А. Кузьмічовай «Вся жизнь души пародия...» могуць служыць словы Дзяніса Кандрацьева: «...Если существует время, // Должно существовать движенье // Из точек в будущем // Назад».

«Как будто устав от придуманной драмы, // Несбывшимся судьбам не верю, но вторю...» — канстатуе бармен у фінале пастаноўкі. А што, калі драма апынецца непрыдуманай? Мабыць, тады замовіць у рэстаране лёсу (дзе, паводле рэжысёрскай задумы, героі п'есы ў рэшце рэшт і знайшлі адно аднаго) тую самую «недаступную страву», пра якую спявае Нэлі Душчынская, стане цалкам магчыма?..

**Яна ЯВІЧ**

# Прыватны лёс калекцыянера


Фота Кастуся Дробава

Калекцыянер са сваёю кнігаю «Тугай», якая распавядае пра барацьбу партызан з ворагам падчас Вялікай Айчыннай вайны.

**Мікалай Магільны — вядомая асоба сярод беларускіх калекцыянераў. Пік яго славы прыйшоўся на 70 — 80-я мінулага стагоддзя. Тады, праўда, далёка не ўсе спецыялісты здагадваліся, што ўяўляе з сябе яго прыватны збор. У размовах кіраваліся больш чуткамі: маўляў, ёсць у калекцыі Магільнага рарытэты, якіх ва ўсіх музеях БССР днём з агнём не знойдзеш.**

> *«Калекцыянеры — людзі асаблівыя. Іх памкненні звычайны чалавек часцей лічыць сцяжальніцтвам. Тое, што мала прыцягвае абывацеля, падаецца малапатрэбным у звычайным побыце (старыя манеты, паштовыя маркі, гаршкі, жбаны і іншыя артэфакты), для калекцыянера прадмет спатalення страсці. Недарэмна некаторыя людзі лічаць, што калекцыяніраванне не што іншае як лёгкае псіхічнае захворванне.*

А мы вырашылі даведацца пра калекцыі Мікалая Васільевіча і яго лёс з першых вуснаў. Адразу папярэдзілі Магільнага, што нас цікавіць будучыня збору. Усё ж узрост у нашага героя далёка не юны… І, канечне, цяпер як ніколі паўстае пытанне пра заўтрашні дзень каштоўнасцей.

Магільны — нашчадак грэчаскіх перасяленцаў ва Украіну. У Марыупалі і цяпер жывуць яго родзічы. Перад самай вайной Мікалай закончыў ваеннае вучылішча. 22 чэрвеня 1941 года сустрэў у паўднёвым гарадку побач з Брэсцкай крэпасцю. Падчас адступлення патрапіў у канцлагер на Жытоміршчыне, адкуль змог уцячы да партызан. Быў камандзірам дыверсійных груп у Палескім партызанскім злучэнні. Пасля вайны працаваў журналістам, спартыўным трэнерам, загадчыкам кафедры ў адной з ВНУ, рэдактарам на тэлебачанні. Напісаў некалькі кніг па гісторыі спорту і Алімпійскіх гульняў.

Цяпер Мікалаю Васільевічу — за дзевяноста… Але жывы розум, пачуццё гумару, энергічнасць, рухавасць — яго спадарожнікі і сёння. А яшчэ дадайце аптымістычны настрой, цікавасць да падзей у свеце і краіне. З такім чалавекам можна пагутарыць літаральна на любую тэму.

Калі ўваходзіш у мінскую кватэру Магільнага (а ёсць яшчэ і хутар на памежжы Пухавіцкага і Мінскага раёнаў), складваецца ўражанне, што трапляеш у архіў альбо музей. Прадаўгаваты вузкі калідор застаўлены вузкімі стэлажамі са старадаўнімі кнігамі. Паводле Магільнага, іх больш як 400 асобнікаў. Поруч — сучасныя і выданні апошніх дзесяцігоддзяў па гісторыі, баявых мастацтвах, беларускай нацыянальнай культуры. Заўважаеш мноства папак, у якіх (ізноў жа, паводле гаспадара) месцяцца розныя матэрыялы па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі. Асобна Мікалай Васільевіч вылучае падпольны рух у Брагінскім раёне. Ёсць і рукапісы нявыдадзеных кніг. У прыватнасці, рукапіс успамінаў яго, Магільнага, маці — дваранкі, выпускніцы Бястужаўскіх курсаў у Пецярбургу.

Дарэчы, і сам суразмоўца адзначыўся на літаратурнай ніве. Яшчэ ў 1960-я гады, што называецца, «па свежых слядах», напісаў аповесць «Тугай». Пра тое, што адбывалася на паўднёвым усходзе Беларусі, на тэрыторыі сучаснай Гомельскай вобласці, у 1943 годзе. У савецкі час кнігу надрукаваць не атрымалася. Уважлівыя «цэнзары» адразу заўважылі: у творы не праглядаецца «генеральная лінія партыі». А яшчэ былі ў тэксце маласімпатычныя водгукі пра савецка-фінскую вайну, якую Саюз фактычна прайграў. Не стрымліваў сябе Магільны і ў выказваннях адносна розных складанасцей акупацыйнага жыцця. Ва ўсечаным выглядзе аповесць надрукаваў «Нёман». Пасля яна выйшла асобнай кнігай. І ўсё ж Магільны шкадуе: шмат што ў гэтых выданнях было выразана і страчана.

Ды вернемся да апісання калекцыі. Уся яна знаходзіцца ў маленькай аднапакаёвай кватэры. Пад столлю — дзівосныя мініяцюры з саломы, ільну і лазы. Гэта работы майстра Таццяны Кізеевай. Побач — гліняныя і металічныя гладышы, чаркі, кубкі. Куды ні кінеш вокам — усюды паліцы і палічкі з экспанатамі.

Гаспадар выцягвае тоўсты і, па ўсім відаць, вельмі цяжкі альбом. Што гэта? Высвятляецца, у альбоме — галоўны гонар калекцыянера: збор металапластыкі з бронзы і латуні. Абразкі, паходныя складні, крыжыкі-энкалпіёны, нацельныя крыжыкі, пачынаючы з самага старажытнага агатавага грэцкага машчавіка X стагоддзя з частачкай святых мошчаў унутры.

Нехта заўважыць: «Проста набор рэчаў…» Не пагодзімся. Гаспадар упарадкаваў сваю калекцыю. Рукапісны том у шэсцьсот старонак дробнага тэксту і ёсць апісанне збораў. Знаходкі не толькі апісаны, каталагізаваны, але і класіфікаваны.

Сёе-тое засталося і для нас таямніцай калекцыі Магільнага. Не давялося зазірнуць у старадаўнія куфры, дзе, па словах гаспадара, сярод іншых ткацкіх вырабаў захоўваюцца два арнаты XVIII — XIX стагоддзяў: урачыстая царкоўная вопратка з нашытымі фрагментамі слуцкіх паясоў.

Мы наўмысна не распытваем калекцыянера пра яго падлікі наконт кошту таго ці іншага прадмета. Ды і, мяркуем, Магільны досыць рэдка сам пра гэта думае. За кожнай знаходкай — не толькі яго прыватны пошук, а і жаданне сістэмна прадставіць беларускую матэрыяльную культуру, дапамагчы праз сабранае паказаць, чым, якімі перакананнямі жылі нашы продкі, што адбывалася ў мінулыя стагоддзі на нашай зямлі.




Прасы, бязмены, абразы, куфры і чамаданы з ткацкімі вырабамі, старадаўні кухонны посуд… «Гэтыя прадметы наўрад ці прадасі на аўкцыёне «Сотбіс», — чуюцца чыесьці сумніўныя развагі. Дык у чым тады «соль» калекцыі Магільнага? Вось што на гэты конт адказвае сам Мікалай Васільевіч: «Мае зборы прадстаўляюць у асноўным карціну жыцця беларусаў апошніх двух стагоддзяў. Прадстаўляюць, між іншым, дастаткова шырока і шматпланава…» І мы пацвярджаем: калекцыяй такога маштабу, як у Магільнага, маглі б ганарыцца музеі ў Строчыцах і Дудутках. Цяпер стала модным павесіць на лецішчы кола ад вазка, паставіць старыя кросны. Аднак у адрозненне ад «поп-культуры», калекцыя Магільнага — гатовы, сфарміраваны музей, які мог бы прыцягнуць увагу многіх людзей, улюбёных у сваю краіну, людзей, якія жадаюць адкрыць нешта новае. Знаёмства са зборамі Магільнага пераносіць у часы, якія мы можам толькі ўяўляць.

...Калекцыянерскі шлях Мікалая Васільевіча быў досыць



няпростым. Напрыканцы 1970-х адна з беларускіх рэспубліканскіх газет надрукавала артыкул «Спыніце Магільнага!». Гэта была не проста лыжка дзёгцю, а сапраўднае абвінавачванне. У віну калекцыянеру ставіліся падман простых грамадзян, у якіх ён, маўляў, за капейкі скупляе рарытэты. І такі артыкул — не адзіная хмарка ў лёсе збіральніка даўніны. Не будзем унікаць у іх падрабязнасці. Калекцыянеры — людзі асаблівыя. Іх памкненні звычайны чалавек часцей лічыць сцяжальніцтвам. Тое, што мала прыцягвае абывацеля, падаецца малапатрэбным у звычайным побыце (старыя манеты, паштовыя маркі, гаршкі, жбаны і іншыя артэфакты), для калекцыянера — прадмет спатalення страсці. Недарэмна некаторыя людзі лічаць, што калекцыяніраванне не што іншае як лёгкае псіхічнае захворванне.

З другога боку, калі б не прыватныя калекцыянеры, каб не іх «хвароба», то хто б сфарміраваў аснову калекцыі Нацыянальнага музея Польшчы ў Кракаве (нагадаем: гэта быў наш суродзіч Карл Чапскі са Станькава)? Хто б паклаў пачатак Нумізматычнаму кабінету ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, аддаўшы туды ўласную калекцыю манет (а гэта быў калекцыянер і вучоны, гісторык нумізматыкі Віктар Рабцэвіч)? Такіх прыкладаў нямала.

— Маё калекцыяніраванне, — дзеліцца развагамі Мікалай Васільевіч, — некалі вырасла з эмацыянальнага штуршка. З 1942 года я партызаніў у трохкутніку Прыпяць — Днепр — Сож, уважліва назіраў за побытам палешукоў, людзей, якія жылі сярод балот. Людзей, якіх мала закранулі нашэсці чужаземцаў. Думаю, што якраз там захавалася «чыстая славянская раса». І чым болей назіраў за палешукамі — тым болей мяне захапляла іх культура, душэўная чысціня. Я да апошняй хвіліны жыцця буду ўдзячны жанчыне-паляшучцы, якая зацягнула мяне, параненага, з перабітай нагой, у хату, схавала на печы, накрыла льном (у вёсцы стаяў нямецкі гарнізон). Яна не магла не разумець, што яе чакае, калі немцы знойдуць чырвонага камандзіра, які ўцёк з лагера. Хіба гэтае адвечнае жаданне беларусаў дапамагаць сваім братам і сёстрам у крытычнай сітуацыі не сведчыць пра веліч нашага народа?! І мне, калі прыехаў у Мінск у ліпені 1944 года, захацелася нечым аддзячыць людзям, нейкім чынам захаваць фрагменты ўбачанага і асэнсаванага мною народнага жыцця. А яшчэ тады, у першыя пасляваенныя гады, людзі, якія выжылі, шмат што выкідвалі, бо імкнуліся пазбавіцца ад старога, тым самым пазбавіцца ад жахаў блізкага ўчора. І гэтая акалічнасць таксама была пэўным матывам збіральніцтва…

Мікалай Васільевіч частуе гарбатай. На хвіліну замаўкаем. Магільны расказаў пра сына, які загінуў у 1960-я, падчас службы на флоце. Іншых прамых спадчыннікаў у калекцыянера няма. Як складзецца лёс калекцыі Магільнага? Збіральнік даўно заклапочаны гэтым. Частку экспанатаў перадаў у музеі Строчыц, Навагрудка, Гродна, Вязынкі… Кнігі гатовы падарыць Нацыянальнай бібліятэцы. Спрабуе весці перамовы з іншымі музейшчыкамі і чыноўнікамі ад культуры. Праўда, гарачай зацікаўленасці да прыватнага музея Мікалая Магільнага не заўважана. І дарэмна.

Мо ўсё ж яшчэ прыйдзе час, калі лёсам збораў Магільнага заапякуецца якая з дзяржаўных інстытуцый?

**Максім ЗАЗЕРКА,**
**Уладзімір ЗЯНЬКОВІЧ**

# «Муховэцька кумора»: акцэнт на аўтэнтычнасць

**Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Аграэкатурызм-2014: партнёрства і інавацыі» прайшла ў Беларусі. Спачатку ўдзельнікі наведалі Кобрынскі раён, дзе пазнаёміліся з паспяховымі ініцыятывамі прадпрымальных вяскоўцаў. На другі дзень, ужо ў Мінску, зацікаўленыя бакі абмяркоўвалі тэндэнцыі і перспектывы новай для нашай краіны галіны.**



*Сядзіба «Палеская традыцыі».*

## НАСУПЕРАК СКЕПТЫКАМ

Удзел у мерапрыемстве бралі гаспадары аграсядзіб, прадстаўнікі ініцыятыўных груп па развіцці «зялёных» маршрутаў і кластараў, турыстычных дэстынацый і кампаній, Міністэрства спорту і турызму, Беларускага грамадскага таварыства «Адпачынак у вёсцы», факультэта міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта.

З часу заснавання БГТ «Адпачынак у вёсцы» прайшло 12 год. Як зазначыла старшыня яго праўлення Валерыя Кліцунова, многія не верылі, што сельскі турызм у Беларусі можа развівацца паспяхова, бо пачыналі з нуля. «Ні сядзіб, ні адпаведнага заканадаўства, ні нават інфармацыйнай нагоды не было, — зазначае Валерыя Анатольеўна. — Але пасля таго, як я наведала аграсядзібу ў Літве і даведалася, што там існуе асацыяцыя, якая аб'ядноўвае прадпрымальных вяскоўцаў, вырашыла: нам гэта па сіле! Аказалася, і ва Украіне такі турызм развіваецца няблага. Праз нейкі час стварылі беларускую асацыяцыю, каб аб'яднаць творчых людзей і даць штуршок для развіцця вясковага турызму. Цяпер у Беларусі — амаль 1900 сядзіб (мы апярэдзілі нават Латвію і Літву, дзе значна раней узнік вясковы турызм). Сёння гэта цэлая індустрыя адпачынку, якая рэгулюецца Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 372.



*Сядзіба «На зарэчнай вуліцы».*

Калі ўсё пачыналася, многія думалі: замежнікаў можна прывабіць цудоўнаю прыродай ці экзотыкай вясковага жыцця, а чым зацікавіць саміх беларусаў? Не сакрэт, значная колькасць сённяшніх гарадскіх жыхароў — гараджане ў першым пакаленні. Нават калі нарадзіліся сярод шматпавярховак, на канікулы ўсё роўна ехалі да бабуль на вёску. Таму з часам многія гаспадары сядзіб зразумелі: вёска прываблівае вялікім культурна-гістарычным набыткам. Чаму б не прыадкрыць яго як для гасцей з-за мяжы, так і для суайчыннікаў.

— Сапраўды, Беларусь, не маючы ні мора, ні гор, ні такой колькасці помнікаў, як, напрыклад, у Італіі, валодае фантастычным турыстычным патэнцыялам, — падкрэсліла Элеанора Бабук, лепшы экскурсавод мінулага года па выніках Рэспубліканскага конкурсу «Пазнай Беларусь». — Тым больш што немагчыма з году ў год паказваць адно і тое ж: Нясвіж, Мір, Мінск, Брэст ды іншыя славутасці. Дзякуючы ў тым ліку і гаспадарам аграсядзіб, якія прыцягваюць увагу да беларускай вёскі як да крыніцы духоўнасці, рэгіёны «адкрыліся» не толькі замежным турыстам, але і беларускім аматарам вандровак і даўніны. Сёння гаспадары аграсядзіб супрацоўнічаюць з мясцовымі музеямі, творчымі калектывамі і народнымі майстрамі.

Ужо два гады ў Беларусі рэалізуецца праект Праграмы развіцця ААН (ПРААН) «Спрыянне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь». Распрацаваны стратэгіі развіцця аграэкатурызму для 17 дэстынацый у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. З дзейнасцю адной з іх — «Муховэцькай куморы» — і пазнаёміліся ўдзельнікі семінара.

«Муховэцька кумора» — так гучыць на мясцовай палескай гаворцы слова «камора» — месца сімвалічнае. Гэта ўнікальная магчымасць адпачыць ад шумнага горада ў цішы беларускага Палесся, здзейсніць захапляльныя экскурсіі па Кобрынскім і Жабінкаўскім раёнах, уздоўж ракі Мухавец. Адметна, што акцэнт зроблены на аздараўленні.

— «Кумора» — гэта яшчэ і супрацоўніцтва 10 аграсядзіб (далучаецца яшчэ некалькі), клубаў ваенна-гістарычных рэканструкцый, байдарачнікаў, веласіпедыстаў, фальклорных і рамесніцкіх калектываў, — заўважае каардынатар праекта «Муховэцька кумора» Ала Палікарпук. — Важна зрабіць так, каб госці затрымаліся на палескай зямлі не на гадзіну і не на дзень. Каб задаволіць інтарэсы турыстаў, гаспадару патрэбны крэатыўныя партнёры.

А як усё гэта рэалізуецца на практыцы, удзельнікі семінара ўбачылі, наведаўшы некалькі аграсядзіб.

## ХУТАР У СПАДЧЫНУ

На сядзібе «На Зарэчнай вуліцы» ў в. Пескі, якая належыць Але Палікарпук, захавалася хата пабудовы 1903 г. і старадаўняя клуня. Збудаванні выклікаюць асаблівую цікавасць у гасцей. На сядзібе праходзяць майстар-класы, у сувенірнай краме прадстаўлены вырабы народных майстроў. Гаспадары сабралі цудоўную калекцыю прадметаў побыту, адзення і мэблі пачатку XX ст. На ўспамін пра наведванне гэтага гасціннага куточка можна зрабіць фотасесію ў нацыянальных строях на фоне старадаўніх інтэр'ераў. Некалькі разоў на год тут праводзяцца рэгіянальныя і міжнародныя кулінарныя фэсты. Гаспадыня спецыялізуецца на кулінарных майстар-класах па нацыянальнай беларускай кухні.

Найбуйнейшая ў Кобрынскім раёне фермерская гаспадарка «Вілія-агра», якой кіруе Васіль Новік, знаходзіцца ў маляўнічым урочышчы непадалёк ад вёскі Гірск. Тут шмат увагі надзяляюць агратурызму. Гасцям сядзібы «Студзінка» прапануюць паназіраць за дзікімі жывёламі ў міні-заапарку. Славутасць сядзібы — старадаўні млын-вятрак, які перавезлі з суседняй вёскі і адрэстаўрыравалі, — гісторыка-культурная каштоўнасць першай паловы XX ст.

— Каб людзі ехалі сюды ахвотна, патрэбна нейкая «разынка», як кажа моладзь, «фішка», — падкрэслíў Васіль Новік. — Не так даўно на месцы сённяшняй сядзібы не было нічога, акрамя старой таполі і разбуранай хаты. Мне ж хацелася стварыць для гасцей экалагічна чысты куток. Паводле мясцовых жыхароў, колісь у тутэйшым вадаёме была вельмі чыстая вада. Пачысцілі — і цяпер вырошчваем у сажалцы рыбу да стала. А вакол — на шмат кіламетраў — лес і балота. Падчас вайны ў гэтым раёне дзейнічаў партызанскі атрад імя Катоўскага. У планах — стварыць за 18 кіламетраў адсюль партызанскі лагер, дзе турысты змогуць адчуць атмасферу ваеннага часу. Плануем таксама адкрыць музей народнага побыту, каб паказаць, чым займаліся раней вяскоўцы (экспазіцыя будзе складацца з дзвюх частак — жаночай і мужчынскай). Мая маці і сёння тчэ адмысловыя рэчы.

*Фота Раісы Марчук*



*Старадаўні млын-вятрак на сядзібе «Студзінка».*

А ў тым, што народныя традыцыі тут не згаслі, можна было ўпэўніцца падчас правядзення абраду «Збірна субота», характэрнага для вёскі Балоты Кобрынскага раёна. Разам з гасцямі ўдзельніцы фальклорнага калектыву рабілі кветкі для каравая, жаніха, дружкі, каня і воза.

У экалагічным маршруце «Муховэцька кумора» — аграсядзіба «Валасюкоў хутар» ля вёскі Батчы. У назве — спадчыннае прозвішча сям'і, якая валодала гэтымі землямі яшчэ ў пачатку XX ст. Сяргей Валасюк, цяперашні гаспадар, атрымаў хутар ад дзеда. Уласнікі захоўваюць сямейныя рэліквіі — узнаўляюць гісторыю роду.

— Мне заўсёды хацелася арганізаваць тут месца для адпачынку, — распавёў Сяргей. — Прырода казачная, вакол — птушынае царства, непадалёк рэчка. Для турыстаў гатуем стравы на любы густ, у тым ліку — па старадаўніх рэцэптах. Прадукты — з уласнай гаспадаркі. Вырошчваем амаль усё, нават дыні і кавуны.

Фермерская гаспадарка «Алесін сад» і сядзіба «Палеская традыцыі» — адметны куток палескай культуры, дзе гаспадыня Ніна Главацкая, удзельніца фальклорных калектываў, прапаноўвае цікавыя праграмы па абрадах і рамёствах. Яе памочнік, муж Пётр, добра спявае. У гэтым наведвальнікі сядзібы змаглі ўпэўніцца. «Этнаабуджэнне» — так называецца адна з ініцыятыў Ніны па стварэнні калекцыі аўтэнтычных палескіх касцюмаў, падтрыманая ПРААН.

## КРОК ДА ПОСПЕХУ

Прэзентуючы дэстынацыю «Муховэцька кумора» і фальклорную інтэрактыўную праграму, спадарыня Ніна раз-пораз пераходзіла на мясцовую гаворку, і гэта вельмі добра ўспрымалася. Вось яна, фішка! А яшчэ радуе, што тутэйшыя жыхары не забываюць пра свае карані. Таму што развесіць ручнікі і паказаць гасцям цудоўныя вышыўкі недастаткова для захавання і папулярызацыі нашай спадчыны.

— Калі мы ездзілі за мяжу, то ў той жа Латгаліі (гістарычны рэгіён Латвіі) за тры дні паспелі наведаць музеі хлеба, піва, старадаўніх музычных інструментаў, сыраварню. Усё гэта не можа не выклікаць захаплення, — прызналася Ала Палікарпук. — Штосьці падобнае хацелася зрабіць і ў нас. Людзі, якія далучаюцца да нашага кластара, — творчыя, «з агеньчыкам». Дарэчы, мы, гаспадары сядзіб, паміж сабою не канкуруем. Калі хтосьці не мае магчымасці прыняць турыстаў, то перадаём гасцей сваім калегам — гэта ж агульная справа. Кагосьці такі падыход здзіўляе.

На дасягнутым прадпрымальныя палешукі не спыняюцца. Вясною плануюць спусціць на ваду дракар — вёсельную лодку (імітацыя судна вікінгаў). І сапраўды, чаму не ўзнавіць? Са школьных гадоў мы памятаем, што ў старадаўнія часы праз нашу краіну праходзілі гандлёвыя шляхі «З варагаў у грэкі» і «Бурштынавы шлях». Такім чынам, і дракар можа стаць сапраўднай «разынкай». А далей можна перасесці на плыт, змайстраваны ў межах праекта ПРААН Генадзем Турыцыным , гаспадаром сядзібы «Рачная» на беразе Мухаўца (Жабінкаўскі раён). З гэтай задумкі можа атрымацца выдатны турыстычны прадукт!

— У Беларусі распрацоўваюцца брэнды як для асобных сядзіб, так і для турыстычных кластараў, — паведаміла Валерыя Кліцунова. — Перш за ўсё брэнд павінен адлюстроўваць спецыфіку адпачынку ў тым або іншым месцы. Усе дэталі — ад афармлення сайта і турыстычных буклетаў да адмысловага посуду — павінны гэтаму спрыяць.

Пра стварэнне свайго брэнда марацьі каардынатары «Муховэцькай куморы». «Мы параіліся і вырашылі, што нашым брэндам можа стаць вожык, які лічыцца абярэгам сям'і, ахоўнікам тэрыторыі, — адзначыла Ала Палікарпук. — Можна ствараць адпаведныя сувеніры, а падрабязны расповед пра вожыка будзе займальным асаблівa для дзяцей».

Сярод удзельнікаў семінара было шмат моладзі. «Прыемна, што прадстаўнікі маладога пакалення гаспадароў сядзіб працягваюць справу пачынальнікаў агратурызму ў Беларусі, — падкрэсліла Валерыя Кліцунова. — Значыць, у вясковага турызму вялікая будучыня!»

**Раіса МАРЧУК**

# Барометр творчай актыўнасці

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Беларускае біенале збірае пад адным дахам лепшыя працы сучасных беларускіх мастакоў, створаныя за апошнія два гады. Адсюль і назва — «Фармазмест — 703». 703 дні — прамежак часу ў сучасным успрыманні даволі вялікі. Сёння сусветныя працэсы так хутка змяняюць усё навокал, што два гады здаюцца цэлай эпохай. Мастацтва не можа быць абыякавым і адлюстроўвае рэальнасць рознымі творчымі метадамі.

Канцэпцыя айчыннага праекта крыху адрозніваецца ад міжнароднага фармату, але прадстаўляе гледачу максімальна шырокі зрэз беларускага мастацтва. Здольнасць беларускай арт-супольнасці



Павел Масленікаў «Абуджэнне». 2014 г.



Фота Кастуся Дробава

Аляксандр Батвінёнак «Бліскучы партрэт жывапісца». 2013 г.

да інтэграцыі ў сусветныя артпрацэсы вызначаецца менавіта тут.

Выстаўка-конкурс не проста збірае добрыя карціны і абстрактна апавядае пра творчыя задачы — гэта перш за ўсё спроба адчуць рытм сённяшняга творчага жыцця. Надыходзіць час важнай размовы з гледачом, а ён чакае ад мастака прафесійна-інтэлектуальнага максімуму. Нягледзячы на тое, што праект праводзіцца з 2008 года (упершыню арганізаваў яго мастак Сяргей Цімохаў), у гледача ўжо адбылася змена стаўлення: мастак успрымаецца як аўтар, творчая асоба, а не як забаўляльная істота. У экспазіцыі, акрамя сталічных, шырока прадстаўлены рэгіянальныя майстры: з Брэста, Гродна, Віцебска і г. д. На працягу біенале кожны наведвальнік мае магчымасць паўдзельнічаць у глядацкім галасаванні на вызначэнне лепшых мастацкіх работ па трох намінацыях: графіка, жывапіс, скульптура. Пераможцы будуць аб'яўлены напрыканцы праекта.

Біенале — заўсёды надзея. Надзея ўбачыць новае, надзея атрымаць адказы... Надзея зрабіць крок наперад.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Гэта будзе сучасна!

**Мінскі міжнародны Калядны оперны форум адкрыецца сёння прэм'ерай «Паяцы» Руджэра Леанкавала.**

«Паяцы» — лепшая з дзевяці опер Р. Леанкавала. У пралогу і дзвюх дзеях кампазітар, ён жа аўтар лібрэта, распавядае гісторыю акцёрскай трупы. У аснову лібрэта пакладзена дакументальная гісторыя, якая адбылася непадалёк ад Неапаля. У оперы гледачы бачаць любоўны трохкутнік, які героі мусяць увасабляць на сцэне — пад маскамі Каламбіны, П'еро (Паяца) і Арлекіна. У момант развязкі маскі зрываюцца — і залу захлынаюць сапраўдныя эмоцыі. Сюжэт — класічная мадэль «тэатра ў тэатры» — выкарыстоўваецца многімі пакаленнямі пастаноўшчыкаў, каб пагаварыць пра прафесійнае і надзённае: пра сцэну, закулісе, стасункі ў тэатральным асяроддзі і нават пра «месца тэатра ў сучасным грамадстве»...

Прэм'ера оперы «Паяцы» ў Мілане 21 мая 1892 года імгненна стала сенсацыяй. За дырыжорскім пультам быў сам Артура Тасканіні. Брытанская і амерыканская прэм'еры адбыліся ў 1893 годзе, расійская ў Санкт-Пецярбургу — у 1894-м. Цікава, што прыблізна ў гэты ж час вынайшлі тэхналогію гуказапісу, і прэм'ера «Паяцы» ўпершыню ў гісторыі італьянскай оперы была цалкам запісаная. З гэтага моманту Р. Леанкавала стаў знакаміты, але ў гісторыю музыкі ўвайшоў як poeta unius libri («стваральнік адной кнігі»), таму што ніколі больш не паўтарыў поспеху гэтай оперы. Выбітны англійскі пісьменнік Джон Галсуорсі, заўзяты аматар і тонкі знаўца музыкі, ставіў «Паяцы» нават вышэй за оперы Д. Пучыні і называў твор Р. Леанкавала «чароўным гібрыдам — адной з тых рэдкіх опер, у якіх сюжэт і музыка па сваім духу знаходзяцца ў ідэальнай адпаведнасці».

— Руджэра Леанкавала, як і П'етра Масканьі, і некаторыя іншыя італьянскія кампазітары і пісьменнікі, быў адэптам плыні «верызм» (ад італьянскага слова vero — «праўдзівы»), — распавёў рэжысёр-пастаноўшчык оперы «Паяцы» ў Беларусі Міхаіл Панджавідзэ. — Адна з асаблівасцей твораў верыстаў у тым, што ў іх спектаклях замест «кардонных» персанажаў вялікай італьянскай оперы (Аіды, Набука, Турандот) з'яўляліся персанажы — сучаснікі гледачоў. Калі адкрывалі заслону, людзі бачылі на сцэне артыстаў у звыклых касцюмах, актуальны побыт, узноўлены сродкамі сцэнаграфіі. Як вынік — гледачы пачыналі верыць у сапраўднасць таго, што адбываецца на сцэне, вастрэй успрымаць узаемаадносіны і ўчынкі герояў. Гэта быў сапраўдны мадэрн на той час. Сучасныя сюжэты для сваіх опер выбіраў П. Масканьі — напрыклад, оперу «Сялянскі гонар» напісаў паводле вядомага пісьменніка-вeрыста Джавані Верга. Лібрэта оперы «Паяцы» Р. Леанкавала заснавана на рэальнай гісторыі: кампазітар пераасэнсаваў сітуацыю, якая адбылася ў маёнтку яго бацькі, калі жонка аканома хацела бегчы з вандроўным акцёрам.

— У дачыненні да «Паяцаў» Р. Леанкавала я нездарма загаварыў пра часавую прывязку, — заўважыў Міхаіл Панджавідзэ. — Калі кампазітар і лібрэтыст меў на ўвазе, што дзеянне ў яго спектаклі адбываецца ў сучаснасці і з сучаснікамі гледачоў, то, як рэжысёр, лічу, што іграць гэтую гісторыю трэба заўсёды ў той час, у якім існуюць гледачы ў зале. Таму ў нашым спектаклі падзеі не будуць адбывацца ў 1865 годзе. Мы не станем іграць Калабрыю, Італію — дзеянне будзе разгортвацца ў наш час і для нашых гледачоў. Вядома, выконваць партыі артысты будуць на італьянскай мове. Меладыка, семантыка маўлення, музыка на мове арыгінала гучаць зусім інакш, чым у перакладзе. Гэтым прывязка да Італіі ў нашым спектаклі, уласна, і абмяжоўваецца. Опера «Паяцы» ў маёй пастаноўцы — перш за ўсё асабістае стаўленне да тэатра ў прынцыпе. Калі пачытаць творы пра тэатр А. Чэхава, А. Купрына, Л. Філатава, можна зразумець, што гэта за дзіўны і незвычайны народ — артысты; што ў іх асяроддзі можа адбыцца і чаму гэта адбываецца; чаму ў артыстаў такія яркія рэакцыі на ўсё і г. д. Пераказваць сваю гісторыю не буду: у спектаклі, які вы прыходзіце глядзець упершыню, павінна быць таямніца.

— Мы ўсе хочам чаго-небудзь незвычайнага ад жыцця: кахання, жарсцяў, глыбокіх пачуццяў. У «Паяцы» Р. Леанкавала яны ёсць, нават крыху ўтрыраваныя, — адзначыў дырыжорпастаноўшчык беларускай версіі оперы «Паяцы» Віктар Пласкіна. — Я назваў бы гэтую оперу псіхалагічнай, дзе ёсць мноства выразных карцін: пралог з сімвалічным сэнсам, цудоўная музыка ў сцэне спаткання Неды і Сільвіа. Самая знакамітая арыя — «Смейся, Паяц...» — трагічная споведзь артыста, які павінен іграць камедыю для гледачоў, у той час як яго сэрца разрываецца. Многія вядомыя оперныя выканаўцы спявалі ў оперы «Паяцы» Руджэра Леанкавала: Лучана Паварoці, Энрыка Каруза, Пласіда Дамінга, Марыё Ланца, Мадэст Менцынскі. Вядомыя тэнары мінулага і пазамінулага стагоддзяў лічылі ролю галоўнага героя Каніа вельмі няпростай, бо яна вымагае шырокага спектра настрояў: ад гумару да лютасці. Артысты, музыканты — асобы ранімыя, могуць зрэагаваць вельмі моцна нават на драбязі, таму што іх душа — суцэльны калейдаскоп эмоцый. Але здольнасць тонка і востра перажываць дазваляе ім перадаць глыбокія пачуцці, душэўную боль і радасць. Опера «Паяцы» Р. Леанкавала — узор музычнага верызму ў італьянскім мастацтве. Поспех твора — у выдатнай збалансаванасці гумару, рамантыкі і драматызму, тонкасці ў выяўленні чалавечых жарсцей, запамінальных мелодый і захапляльнай інтрыгі. У сённяшнім утылітарным свеце гэты спектакль — патрэбны і своечасовы.

**Ганна ШЫМУК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2303.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.12.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4967.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
14049
977002446800